*Ёсць свая мудрасць у тым, што*



# КОЖНЫ КУЛІК СВАЁ БАЛОТА ХВАЛІЦЬ

с.8-9

*З любоўю да ўлоння*

*1997 №3 (6)*

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік

# Сонца над Беларуссю

Слова рэдактара



*Фота: Неруш-прэс*

Сёлета яго мала, відочна бракуе. Бракуе дзецям, садам і лясам, бракуе жанчынам, дачнікам і нават палітыкам, якія сабраліся ў Мінску вырашаць канстытуцыйны крызіс. Усё ж такі – лета, раскоша, квецень прыроды, а яно – толькі зрэдку, з-за хмараў. Цягне больш халадком, замест сонечных купальняў на светла-зялёных лонях далеч пырскае дожджыкам.

Але смак жыцця ў тым, што гэта не бясконца. Хмарнасць у рэшце рэшт растуляецца. У наваколлі запаноўвае лагода і цеплыня. Лета разліваецца пахамі кветак; можа здарыцца так, што нават аднаго дня, нечакана шчодрага на летнюю ўцеху, будзе досыць душы, каб застацца ўдзячным гэтаму лету. Яно не апошняе.

Аднак не будзем спяшацца. Яшчэ не жніввеньскі вечар сцелецца пожняй, а толькі першы ўкос звезены ў пуні. Лугі спеюць новымі краскамі, з ранку да вечара звіняць птушыныя ўрочышчы, бягуць удалеч дарогі, закалыханыя нівай...

Ёсць сонца ці яно ў захмар'і, заўсёды хочацца думаць пра Беларусь. Мроіць яе такой, якой прагне душа, не апляванай пустадомкамі, а годнай і вольнай, высока знанаю ў свеце, дагледжанай і прыгожай. Толькі нявольнікі ды вартыя жалю невукі могуць прымаць на веру, што наша краіна малая, нічым такім не адметная, маўляў, ёсць краіны шмат багацейшыя за яе, і што нам, як ні круці, наканавана заставацца ў цяні мацнейшых суседзяў. Д'ябальская мана і аблуда. "Не!" – адказваюць рэхам беларускія пушчы. "Не!" – званамі святыняў вяшчуюць абшары. "Не!" – з нетраў струменяць нашы крыніцы. "Не!" – круцяць галоўкамі краскі палёў і лугоў.

Што ні пара ў прыродзе, то кожная цвердзіць красу і веліч Беларусі-краіны. Азірнёмся навокал – і кроны дрэў, і лініі гарызонта, і белагрудыя воблакі малююць вобраз маці-Айчыны, пяюць ёй несціханую песню-хвалу. Толькі трэба спыніць пагляд, прыслухацца. Лета – найвымоўная суразмоўніца ў нашай любві да ўсяго, што завецца Радзімай. Тут наш дом - Беларусь. Быў. Ёсць. І будзе заўсёды.



*Валерый Дранчук*

Т э м а нумара:

***Белавежская пушча мізарнее і спустошваецца. с.4-7***

Грыбная *т э м а*:

***"Трэба ведаць грыбы і мясціны, дзе іх можна збіраць". с. 12-13***

Т э м а-анонс:

**Дзень 23 чэрвеня** *гэтага года ўпішацца ў хроніку прыродных анамаліяў як цяжкі і стратны для Беларусі. Людзі сталі сведкамі магутнай разбуральнай стыхіі, якая нявечыла на сваім шляху будынкі, дрэвы, камунікацыі. Газета рыхтуе чарговую "летапісную старонку", прысвечаную гэтай тэме. Запрашаем усіх, хто назіраў з'яву, напісаць нам пра свае ўражанні або даслаць іншыя сведчанні (фотаздымкі, малюнкі, выразкі з газет і г.д.).*



*Выцінанка ад Ніны Сакаловай-Кубай.* *Кветкі ў букетніцы*

## Увагі рэдакцыі

Дзень добры, шаноўная рэдакцыя!

Шкадую аб тым, што раней не меў магчымасці чытаць Ваша цудоўнае выданне. Упершыню газету (другі нумар за гэты год) набыў у Менску падчас "Чарнобыльскага шляху". Цяпер я ўжо ваш падпісчык з другога паўгоддзя, але паштарка сказала, што газета "Белавежская пушча" да гэтае пары па пошце не праходзіла. На выпадак, калі не "пройдзе" і зараз, Вы ўжо як-небудзь яе дасылайце. Згодзен на даплату, і заадно прасіў бы даслаць мне старыя (папярэднія) нумары. Калі трэба, заплачу наперад, толькі паведамце, на які адрас.

З павагаю

***Генрых Даніловіч, г. Вілейка***

Дзякуй за добры водгук, спадар Генрых, і за тое, што Вы парупіліся перасцерагчыся ды перасцерагчы нас. Ваша ўвага актуальная і акурат да часу. Мяркуем, што газета, на якую Вы падпісаліся, абавязкова "пройдзе" і патрапіць у Вашу скрынку абавязкова.

У гэтым — ад імя аб'яднання "Белпошта" — запэўніваем усіх нашых падпісчыкаў. Мы радыя, што колькасць новых адрасоў падпіскі павялічваецца, што цікавасць да выдання расце. Папярэднія нумары, сп. Генрых, Вы таксама атрымаеце па пошце. Такую ж паслугу мы зробім і для іншых, хто напіша нам і замовіць ранейшыя выпускі "Белавежскай пушчы" на свой адрас.

Як заўсёды, зычым сябрам газеты ахвоты й запалу ў прапагандзе нашага выдання, таму зважаем: прачытаў — перадай другому, падпісаўся — пераканай іншага.

Да спаткання ў жніўні.

Газета выдаецца на падтрымцы інфармацыйнага агенцтва "Неруш-прэс". Падпісны індэкс 63267
Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук
Для кантактаў: 220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38-16
Тэл. (0172) 236-50-76

The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk
Contact Ivanovskaya St. 38-16
2200088 Minsk Belarus



*Якуб Колас*

## Казкі жыцця

Дапь

Зацвіла прыгожая ліпа. Колькі шуму было тут на гэты час, колькі разнагалосага спеву! Працавітыя пчолкі, усялякія мушкі гулі так, што здавалася, нібы ліпа — гэта нейкі дзіўны музыкальны інструмент і адбываецца ігрышча. Але адцвіла ліпа, пачало спець насенне. *с.2*

# ПАТРЫЁТЫКА PATRIOTICA

## Дбаць пра славу свайго краю, шырыць думкі беларускія

### Са спадчыны Яна Чачота(1796-1847) і Сяргея Палуяна(1890-1910)

> *Ашчаднасць ёсць маткай выгоды, парадку і багацця, дамашняга і грамадскага шчасця*
>
> *Ян Чачот*

Шчасце – гэта найвышэйшая мэта ўсіх імкненняў чалавека; шчасце – ва ўнутранай задаволенасці ад сваёй працы, учынкаў і побыту; асабістае шчасце – у шчасці грамадскім: дбаць пра грамадскае дабро – значыць памнажаць і дабро ўласнае.

**Х**то дбае пра грамадскае дабро, інакш кажучы пра шчасце, асвету і славу краю, хто рады прысвяціць яму самога сябе, аддаць яму ўсе здольнасці, сілы і маёмасць – з'яўляецца сапраўдным грамадзянінам.

**С**апраўдны грамадзянін паводзіць сябе не толькі згодна з устаноўленым грамадскім законам, але і згодна з законам сумлення, маралі і рэлігіі; улада законаў знаходзіць чалавека дома і па-за домам... Але ўнутры чалавека няма моцнай спружыны для кіравання яго ўчынкамі; дык вось – там, дзе ўлада законаў і сораму слабыя, там пачынаецца ўлада сумлення і рэлігіі.

**Р**элігія не толькі аб'ядноўвае людзей з творцам, яна не толькі ўцеха і вышэйшая асалода для сэрцаў, знясіленых пад цяжарам няшчасцяў і чалавечых заганаў, але і шчыт супраць варожых грамадству яго членаў, яна – краевугольны камень, на які абапіраецца мараль і тленнае шчасце.

**М**аральная распушчанасць, празмернасць і раскоша ў задавальненні жыццёвых патрэб, што прыводзяць да жудасных вынікаў, нараджаюць агіду да шлюбу, якая вельмі часта бачная сёння. Праз гэта псуюцца дарэшты не толькі пачцівасць, мараль, не толькі церпіць ад гэтага рэлігія, але, што вынікае адсюль, церпіць увесь люд, які ўсё больш прыкметна робіцца слабейшым, бяднейшым, становіцца няздатным як след працаваць для дабра краю, а значыць і для дабра кожнага паасобку.

**А**шчаднасць з'яўляецца маткай выгоды, парадку й багацця, словам, дамашняга і грамадскага шчасця, з'яўляецца рысай сапраўднага грамадзяніна, бо яна вядзе да прыстойнага карыстання дастаткамі, якімі трэба дзяліцца і з іншымі, яна праціўніца ўсякім празмернасцям і раскошы – самай галоўнай прычыне дэмаралізацыі. У нас празмернасці гэтыя не толькі не даюць карысці, не павялічваючы мясцовую прамысловасць, але выразна шкодзяць, бо гэта ж марнуюцца апошнія сродкі, якія можна было б укласці ў развіццё земляробства. Ашчаднасць вельмі пажаданая, яна той адзіны бальзам, што столькі можа загаіць ранаў і падмацаваць грамадскі дух.

**Т**ой, хто прысвячае сваю працу – фізічную ці разумовую – свайму краю, усё робіць для яго добра, з'яўляецца адначасова карысным грамадству чалавекам і паважаным грамадзянінам.

**З**алішне мяккае і камфортнае выхаванне з'яўляецца пачаткам распешчанасці, слабаволля і іншых заганаў, як фізічных, так і маральных, якія сярод нашай моладзі аж занадта часта назіраюцца. Трэба імкнуцца палепшыць дамашняе выхаванне, трэба, каб кожны развіваў свае фізічныя сілы, а для гэтага карысныя: заняткі з палашом, конная язда, плаванне і іншыя практыкаванні.

**М**ала гаварыць пра станоўчыя якасці чалавека і навучаць ім; трэба самому даваць ва ўсім прыклад у паводзінах. Бо ніхто так не схіляе да ліхога людскія сэрцы і розум, як ліхія ўчынкі тых, хто воляй лёсу закліканы вучыць просты люд і паляпшаць разбэшчаны свет, хто на словах прапаведуе дабрачыннасць, а ў жыцці заграз у распусце.

**1821**

> *Няма нічога пякнейшага за набліжэнне святла і праўды*
>
> *Сяргей Палуян*

**К**алі мы паставілі сабе мэту адрадзіць наш народ на нацыянальнай глебе, то нам у першую чараду трэба адрадзіць сваю мову. Толькі тады ў нас будзе якоесь асобнае нацыянальнае жыццё, бо асобная мова – гэта і ёсць форма нацыянальнай асобнасці. Толькі адрадзіўшы мову мы зможам паставіць на цвёрды грунт наш рух. Бо нацыянальны рух, як вялікая жыццёвая гістарычная сіла, можа жыць толькі тады, калі пад яго будзе

## Казкі жыцця. Дальъ



Расло адно зярнятка на самай высокай галінцы. Можа гэтая высачыня і была прычынаю таго, што маладому насенню захацелася кінуць тутэйшы грунт і перабрацца туды. І якое павінна быць шчасце жыць там, калі ад аднаго толькі погляду на прыволле гэтай далі рабілася светла і радасна на душы.

Бывала, ледзь толькі ўзыдзе сонца, ледзь рассеюцца на версе лясоў і ўзгоркаў яго залатыя абрусы, як гэтае зерне ўжо не зводзіць вачэй з сіняй далі. Што было ў ёй такога, чым прывабіла яна, гэтая даль, маладое ліпавае дзіця?.. У той бок, адкуль найлепш выглядала гэтая даль, беглі разлогі шырокіх палёў, а на іх межах то там, то сям параскідаліся, як маладзіцы ў жніво, дзікія грушы. Ціхія ўзгоркі, бы хвалі рачныя, таксама, відаць, цягнуліся да няяснай і прыгожай далі. А там, дзе поле ўпіралася ў цёмную сцяну баравога лесу, на самай граніцы, ззяла, як люстэрка, пакручастая стужка вады. Яшчэ далей, там, куды беглі срэбныя загібы бліскучай рэчкі і памыкаліся ўзгоркі, баравы лес і шырокае поле, ужо нельга было разглядзець нічога паасобку,— была проста даль, якая так моцна нарывае да сябе душу,— даль, над якою драмалі ў залатых марах, здавалася, нерухомыя клубочкі кучаравых хмарак.

Ёсць нейкае хараство ў гэтай няяснасці, у гэтай безгранічнай далячыні, дзе неба нізка-нізка нахіляецца над зямлёю. Якая ўлада, якая сіла цягне ў бязмежнасць сіняй далі?

— Эх,— уздыхала маладое зерне,— паляцець бы ў гэтую даль.

Пачуў вецер тыя ўздыханні, устаў з-за ўзгорка, пазяхнуў пасля салодкага супачынку і падляцеў да маладога насення.

— А я і ведаў,— сказаў ён, — што не сягоння-заўтра папросішся ты ў дарогу. Трэба, трэба пазнаваць свет!

І стала прасіць маладое насенне, каб вецер узяў яго з сабою і панёс у аблюбаваную даль.

Старой ліпе шкада было пускаць дзіця ў чужы свет, невядома куды, але што парадзіць? Можа, там будзе і лепей яму? Дык што, станавіцца ўпоперак дарогі? Мо, гэты шлях — шлях яго шчасця? Благаславіла маці сваё дзіця.

— Ляці, мілае!

Падхапіў вецер маладое насенне і панёс. Лятуць яны, і здаецца, самі бягуць на спатканне прыгожыя ўзгоркі, зялёныя лагчынкі. Пазірае на ўсё маладое насенне і вачам сваім не верыць: няўжо гэта тыя самыя малюнкі, на якія глядзела яно так нядаўна? А дзе ж іх хараство? Дзе тыя гладкія абрысы, дзе грабяні, што так павабна выглядалі адтуль — з ліпы? А палоскі лясоў? Нават сама рэчка не такая, якою здавалася здалёк.

Нейкі неспакой пачынаў агортваць маладое насенне. Ой, ці не жартуе з ім вецер: ці туды нясе ён, куды прасілася душа?

— А ці скора будзе тая даль, мілы вецер?

— Мы даўно мінулі яе, — адказаў вецер,— а цяпер новая даль перад намі.



*Даль. 1947*



падведзен такі фундамент, як гібка аброблeная мова, дый літаратура і навука ў гэтай мове.

**В**ось чаму, калі мы хочам падняць наш народ з цемнаты няведання, мы павінны несці яму яго родны свет навукі, не прыбраны ў чужую, хоць часам і пекную, апратку. Трэба прывучаць яго, каб шанаваў сваё роднае, бо толькі той можа шанаваць чужое, хто сваё найперш шануе.

**Т**рэба падымаць культуру ў народзе, і культуру сваю, беларускую, а гэта і не так лёгка, як здаецца. Мала яшчэ кніжак у нас, выходзіць ўсяго толькі адна газета. Але мы павінны моцна трымацца за тое, што ўжо маем, шырыць слова беларускае, шырыць думкі беларускія, каб пайшлі яны па курных хатах сялянскіх.

**І** дзеля гэтага трэба працаваць над адраджэннем і развіццём роднае мовы. Калі цяпер, пасля доўгай паняверкі і здзеку над жывым словам беларуса, надышоў такі час нацыянальнага вызвалення, калі наша мова пачала з'яўляцца ў друкаваным слове, то паказалася, што ў мове нашай не хватае шмат слоў для выказвання патрэбных думак.

Прыходзілася вяртацца назад да таго часу, калі на нашай зямлі панавала свая культура, з памятнікаў гэтае культуры прыходзілася браць загубленыя народам словы, каторыя хоць яны і беларускія, але як не ўжываюцца ў бедным штодзённым жыцці народу, дык не могуць быць кожнаму зразумелыя. Нам трэба шмат новых слоў, а пазычаць у суседзяў не надта хочацца; вось і прыходзіцца карыстацца старымі беларускімі словамі.

**К**ожны беларус мусіць шырыць на Беларусі друкаванае слова ў роднай мове. Няхай ён ведае, што і яго праца не прападзе задарма, што і ён уклаў сваю цаглiну ў вялізны будынак культурнага багацця народу. І толькі тады, як мы ўсе дружна возьмемся за прасвету ў народнай мове, калі мы дамо яму ўсе патрэбныя для навукі рэчы ў яго мове, калі ў кожным глухім кутку будуць чытаць беларускую кніжку і газету, — толькі тады мы зможам чым-колечы памагчы ў змаганні з беднасцю і цемнатой народнай. Прыбліжаць святлейшыя дні для народа мусіць кожны з нас. Няма пякнейшага назначэння, як набліжэнне праўды і свету. Гэта – святая павіннасць.

**1909**




*Рыгор Сітніца. "Новы дом". Папера, аловак, 1995.*

SUMMARY


Some educational articles speak of preserving original Belarusian features and reviving the true language and folk traditions. Also published here is *Dal'* (*"Yonder"*), a philosophical tale by the classic Belarusian writer Yakub Kolas. The illustrations symbolise the current situation in this country where everything national is being destroyed. However, this provides everyone who loves their nation and native Belarus with the chance to build a Belarusian home. **Pages 2-3.**


*Гальяш Лейчык*

***



*Хто адрокся сваіх,*
*Хто стыдацца нас стаў*
*І прыліп да чужых, —*
*Каб ён свету не знаў!*

*Мову родную хто*
*Пазабыў, асмяяў,*
*Загубіў на нішто, —*
*Каб ён свету не знаў!*

*Сваю родну зямлю*
*Хто чужынцу прадаў,*
*Скрыўдзіў вёску сваю, —*
*Каб ён свету не знаў!*

*Хто з народам не жыў*
*І карысці не даў,*
*Хто сваіх не любіў, —*
*Каб ён свету не знаў!*

*1927*

*Янка Купала*

## Спадчына

*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*Мне засталася спадчына;*
*Паміж сваіх і чужакоў*
*Яна мне ласкай матчынай.*

*Аб ёй мне баюць казкі-сны*
*Вясеннія прапаліны,*
*І лесу шэлест верасны,*
*І ў полі дуб апалены.*

*Аб ёй мне будзіць успамін*
*На ліпе бусел клёкатам*
*і той стары амшалы тын,*
*Што лёг ля вёсак покатам;*

*І тое нуднае ягнят*
*Бляянне-зоў на пасьбішчы,*
*І крык вароніных грамад*
*На могілкавым кладзьбішчы.*

*І ў белы дзень, і ў чорну ноч*
*Я ўсцяж раблю агледзіны,*
*Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,*
*Ці трутнем ён не з'едзены.*

*Нашу яго ў жывой душы,*
*Як вечны светач-полымя.*
*Што сярод цемры і глушы*
*Мне свеціць між вандоламі.*

*Жыве з ім дум маіх сям'я*
*І сніць з ім сны нязводныя...*
*Завецца ж спадчына мая*
*Ўсяго*
*Старонкай Роднаю.*

 



# Падзенне Белавежскай пушчы.

## Уладзімір Дацкевіч: "Паўвека я тут прахадзіў і магу пасведчыць любой камісіі, што старажытная Пушча імкліва знікае, гістарычны лес канчаткова падае, а што ацалела - дабіваецца сёння."

*" Цяпер той, хто хоча на свае вочы бачыць, які быў Шэрвудскі лес у часы Робін Гуда, Ардэнскі лес у часы рыцараў Круглага Стала і казачных волатаў, Тэўтабургскі лес у часы Армінія, не павінен шукаць такога ў сябе, у Англіі, Францыі, Германіі, а павінен ехаць сюды, у спрадвечны лясны аплот.*

Уладзімір Караткевіч, "Зямля пад белымі крыламі", 1977.

*На пачатку тысячагоддзя Еўропа была пакрыта суцэльным дрымучым лесам. Яшчэ не стукалі па рэйках цягнікі, не куродымілі заводы, пад скляпеннямі храмаў не гучалі велічныя харалы. Усё гэта будзе. Бадай, і ўявіць немагчыма, што гэтага быць не магло.Там, дзе сёння стаяць гарады і няспынна віруе людскі натоўп, запаціліся сонцам паляны, у халадку глухіх ельнікаў хаваліся ў спёку дзікі ды ў маладой зеляніне грабавага лесу цёхкаў салоўка.*

*Важкай прыкметай першародных мясцін быў зубр — сучаснік мамантa і пячорнага мядзведзя, якія таксама вадзіліся тут у незапомныя часы. Усім хапала травы, вады і паветра.*

*Жыццё чалавека моцна пацясніла адвечны лес. Прыладамі наступу былі агонь і сякера. Разлога дзікай прыроды цягам стагоддзяў адступала, драбілася на выспы-атокі, якія ў рэшце рэшт або знікалі з аблічча зямлі як з пагоркаў вясновы снег, або абачліва ашчаджаліся дзеля збярэжання буйнога звера — на выпадак палявічых забаў, ці проста былі недаступныя прагнасцям чалавека і ацалелі.*

*Белавежская пушча — самы вялікі ў Еўропе лясны абшар, што застаўся ад пагінулай зялёнай Атлантыды Старога Свету... Гэта, аднак, не значыць, што лёс Пушчы быў бясхмарны. Нагадаем горкую ісціну: на працягу вякоў Пушчу лілавалі, вывозілі і спляўлялі. Усімі даступнымі сродкамі хацелі скарыстацца дзеля асабістага ўзбагачэння ці папаўнення занялалай дзяржаўнай казны. Шалёны ўзятак з залатога дна, якім бачылі Пушчу, шмат каму кружыў галаву. Кружыць і сёння.*

*Уладзімір Афанасьевіч Дацкевіч з тых людзей Пушчы, хто даўно не мірыцца з дзікунствамі яе эксплуатацыі, застоем навуковага доследу, маўклівым сузіраннем. Ён мае сваю, адрозную неспакойную думку і ўважае за абавязак даводзіць яе іншым. Ён гаворыць так, як думае. Бог мой, што можа быць больш удзячнае для журналіста як не магчымасць данесці да чытачоў пазіцыю нераўнадушнага чалавека. У нашым выпадку - патомнага жыхара Пушчы, вучонага-арнітолага, аўтара шматлікіх манаграфій, цікавага, надзвычай інтэлігентнага чалавека.*

*Валерый Дранчук*

●●●

ТРЭБА глядзець схему і бачыць, як адгалінаванні палескіх балотаў "зайшлі" ў Пушчу. Цэлая сістэма балотаў. Цікава і люба. Усё цесна, хараша павязана: балоты далі жыццё рэкам, рэкі далі жыццё Пушчы. Але ўвесь грунт цікавасці ў тым, што гэтыя балоты маюць адрознае "грамадзянства": рэкі адных цякуць ў Балтыйскае мора, рэкі другіх – у Чорнае. Знакаміты водападзел, які робіць пушчанскі рэгіён яшчэ больш унікальным, што, дарэчы, заўжды адзначаюць батанікі. Тут зямная таямніца, адвечны гістарычны ланцуг: найперш паўстаў раслінны свет, затым жывёльны, у тым ліку зубр, а пасля ўжо і чалавек далучыўся сюды. Кніга вечнасці!

І вось цяпер, прыканцы XX стагоддзя мы на ўсім ставім кропку. У тое, што зрабіла вынішчальная меліярацыя, розум адмаўляецца верыць. Але гэта факт. Белавежская пушча атрымала ад так званых меліяратараў з поўнай жмені. Усе рэкі, за выключэннем Нарава, асушаны. Альбо спраставаныя. Цэлая сетка малых рачаінак, рачулак, якія насычалі гэты лес, навечна знішчана. Наступствы ўжо на вачах. Прапалі шматлікія тыпы лесу: ольсы, груды, сасьнякі. Няма падросту сасны, пладаноснасць сыходзіць на нішто. Лес не ўзнаўляецца. Калі нешта недзе трохі вырастае – адразу ж вытоптваецца, паядаецца. Паглядзіце, год за годам катастрафічна падае ельнік. Лясгасы ўжо ледзь спраўляюцца з гэтым абвалам. Але каб адзін толькі ельнік...

Людзям даводзяць, што, маўляў, год засушлівы. Несур'ёзна! Засухі бывалі і раней. І не такія. Гэта набрала сілу тое, што ўчынілі варвары ад меліярацыі. Дэфіцыт вады. Дарэчы, не толькі ў лясах, але і на сельскагаспадарчых землях. Парушыўся колазварот грунтовай вады. А гэтыя механізмы дзейнічаюць як помпа. Ледзь што – пачынаецца. Атмасферныя ападкі не засвойваюцца як раней, а па сотнях прарытых каналаў коцяцца ў мора. Людзі здзіўляюцца: раней было ўсё нармальна...

Я не гідролаг і не ведаю рэцэптаў, што зрабіць, каб вярнуць нашы балоты і рэкі, насыціць лясы вільгаццю. Магу толькі сумна канстатаваць: вады ў Пушчы, па вялікім рахунку, няма. Рэкі "селі" зусім, перасыхаюць; мяркую, так званым водным артэрыям прыйшоў поўны канец. Азёраў няма. Ёсць штучныя сажалкі, якія ў рэшце рэшт могуць застацца з сухім дном. Вось больш чым яскравы прыклад. Зіма 1996 года. На рэдкасць мнагаснежная, не хутка такая будзе зноў. Вясна – з вялікай вадой, ападкамі. А стары, вялікі вадаём у Перарове так і не набраў патрэбнага ўзроўню. Пра што гэта сведчыць?

**Як сведчаць сацыёлагі, каля палавіны апытаных жыхароў рэгіёну( 47% ) лічаць, што за іхнім часам стан белавежскага лесу значна пагоршыўся. Сярод прычын пагаршэння называюцца розныя віды гаспадарчай дзейнасці, у тым ліку меліярацыя, высечкі ў вялікіх аб'ёмах, тралёўка лесу вялікагрузнай тэхнікай.**

Дэфіцыт вільгаці ўжо такі вялікі, што лясныя штучныя сажалкі папросту нежыццяздольныя, на іх няма падстаў спадзявацца.

Асушаны землі і вакол Пушчы – а гэта тысячагектарныя плошчы. Сёння там, бадай, нічога не родзіць. Нават

SUMMARY

Belavezhskaya Pushcha has rarely been discussed with such alarm and concern as in this article. It is a monologue by Vladimir Datskevich, a scientist and ornithologist who lives on the reserve. He affirms that the ancient forest reserve is finally degrading now at the hands of economic planners and the authorities. He gives us numerous examples of his own observations, and considers that the decision to transform the Pushcha into a National Park is unwise. He feels that the way to save it lies in turning the territory into a fully restricted reserve. His hopes for possible change are all related to political change in the country. Pages 4-6



 

Дзікая прырода – гэта рэсурс, які мізарнее, спустошваецца, але не ўзнаўляецца. Можна спыніць уварванне ў яе надзелы, альбо скарыстоўвацца імі ў абмежаваных памерах ці то з мэтамі адпачынку і розных забаў, ці то – навукі і дзеля ўсяго жывога, што там сялібуе, але стварыць наноў той жа неруш ў поўным сэнсе гэтага слова ўжо немагчыма.

Олда Леапольд, 1949

шматгадовыя травы расці не хочуць. Адны сітнікі. Гэта ўжо апустыньванне тэрыторыі, на якой, дарэчы, адных толькі жывёлагадоўчых фермаў больш за сотню. Уся нагрузка кладзецца сюды, на пушчанскія ўгоддзі, на гэтыя рэшткі, на гэты ацалелы прыродны пласт.

●●●

ПУШЧАНСКАЯ драма адбываецца не ўвачавідкі, бо гэта вялікі лес. Аднак тое, што паддаецца назіранням, хвалюе і абурае.

У Пушчы з 50-х гадоў пануе разбойны тып высечак. Лес валяць спрэс, без пэўных на тое падыходаў. Праўда, ёсць адзін распаўсюджаны падыход – слановы. Па запаведным лесе сноўдаюцца-гудуць шматтонныя “Кіраўцы” – даўно не зважаючы, які посуд у гэтай краме. А “крама” тым часам радзее і спусташаецца: за дзесяцігоддзі планавых высечак Пушчы нанесена такая вялікая траўма, што пасля яе, бадай, немагчыма й падняцца.

Бывае, пасля якога-небудзь чарговага наезду ў Пушчу высокага прыдворнага гаспадарніка на слыху яшчэ доўга застаецца адна і тая ж фраза пра залатое дно Пушчы. Ня цяжка ўявіць, як гэта развязвае рукі планавікам-карыстальнікам! І як балюча б'е па экалагічнай, ашчаджальнай этыцы, па людзях, якіх “лягсагаўскае мысленне” яшчэ не адолела.

Ёсць падставы спытаць: ці мае права лесагаспадарчае ведамства секчы помнік прыроды, які нам пакінулі продкі? Патрэбны чалавецтву такі помнік ці не? І чаму за чалавецтва адказваюць, прабачце, часовыя людзі? Сёння яны ёсць, заўтра няма.

Праўда, каб рашэнні выглядалі знешне прыстойна, часам падключаюць абслугу, напрыклад, навуковыя арганізацыі, розныя інстытуты, кафедры. Але гэта ўсё вельмі далёка ад незалежных ацэнак. Ёсць палітыка, курс, напрамак. Іх трэба падтрымаць тэорыяй. Абслужыць практыку. Так нараджаюцца праекты, канцэпцыі. Усё б добра, калі б не “вушы” міністэрстваў і ведамстваў, усіх тых жа неўтаймоўных карыстальнікаў.

Я ўжо казаў пра навакольны прэс на Пушчу. Фермы валяцца. Калгасы абанкручваюцца. Таму ёсць задума гэтыя сумежныя тэрыторыі далучыць да Пушчы, стварыць нейкі гаспадарчы кангламерат кшталту канцэрна. На чый рахунак гэта ўсё робіцца, вы бачыце. Нічога прыродаахоўнага няма абсалютна. І нават не прадбачыцца. Парадаксальна.

Што да назвы Нацыянальны парк. Прабачце, гэта падман грамадскай думкі. Ніхто ў толк не ведае, што такое нацыянальны парк. Разбілі маналітны лясны абшар на тры зоны. Навошта такое чыніць, калі хочам зберагчы для нашчадкаў гэты вялікі лес? Ён жыве адным біялагічным жыццём – дык і няхай жыве! Іншая справа, што гэта дае ўладам магчымасць гаспадарыць так, як ім хочацца. Менавіта – працягваць разбой і дэградацыю, падманваць грамадства ідэяй нацыянальнага парка.

Затым. Я бачыў на схемах вылучаныя дзялянкі – абсалютная запаведнасць, тое, што ў такіх рэзерватах як Пушча мусіць быць святым месцам, што вякамі не забіраюць у прыроды, не кранаюць і пальцам. У нашым выпадку ўсё выглядае не так. Гэта былыя забалочаныя мясціны, куды не здолеў прабіцца трактар. Пакуль не здолеў. Хутка здолее, як толькі падыдзе чарга. Сёння тыя мясціны маладаступныя і пакуль што не надта патрэбныя – чорнаальшанікі, малатаварны лес уздоўж граніцы на водападзеле Ясельды і Нарава і гэтак далей. Астатняя частка Пушчы *эксплуатуемая*. Лясны абшар праразаюць ты-сячы кіламетраў цвёрдапакрытых дарог, трубаправодных шляхі – нафта, газ. Тры вайсковыя базы, адна, кажуць, з радыяцыяй. Вакол Пушчы – сорак піларам, апроч галоўнай, што на сядзібе. Не паветра ж яны пілуюць, праўда?

Вы толькі паслухайце, што кажуць гаспадарнікі. Не міргнуўшы вокам, яны заяўляюць, што могуць узнавіць тыпы гістарычнага лесу. Яны, бачыце, могуць! Лепш назавіце, дзе, калі, у якой кропцы планеты гэта здолелі зрабіць. Справа ў тым, што нідзе і ніколі. Калі Заходняя Еўропа засталася без гістарычных лясоў, там што, скажыце, калі ласка, не знайшлося разумных людзей, каб вярнуць іх? Фокус




у тым, што яны і не збіраюцца гэта рабіць, бо гэта ўжо немагчыма. А нашы зухавата пахваляюцца. Маўляў, можна секчы Пушчу. Больш за тое. Не толькі можна, кажуць яны, але трэба секчы. Гэта ад невуцтва.

Ідзе вайна, адным словам.

●●●

ЦЯПЕР службы адміністрацыіі досыць варухліва ўзяліся развіваць турызм. Скажыце, калі ласка, каму гэта трэба? І што тут можа атрымацца?

Ёсць, напрыклад, Карпаты. Іх пакуль што ніхто з месца не зрушыў. Іх там маглі апа-ганіць, загадзіць, абакрасці – але яны яшчэ горы. А як з Пушчай?

Я скажу вам самыя горкія, самыя крыўдныя, можа, самыя балючыя словы, якія мушу сказаць. *Старажытная Пушча засталася ў мінулым. Той лес, які мы нядаўна ўважалі за пракаветна-казачны, велічны, першародны, — сёння ўжо страчаны. З пункту гледжання турыста Пушча не ўяўляе асаблівай цікавасці.* Пра турызм, сапраўдны турызм, гаварыць, на жаль, вельмі позна. Не будзем крыўдзіць астатні лес, які расце ў Беларусі, – у чым розніца паміж тым, што пад Мінскам, і гэтым? Я ўтрырую, бо ў мяне ёсць падставы баяцца: тэмпы зблiжэння абодвух гэтых тыпаў надзвычай імклівыя.

Цяпер трохі пра іншае. Тое, што зараз тут робяць Ціцянкоў і ягоныя службы, спрабуючы паставіць турызм на шырокую нагу, – гэта ўсё другі план. Яны рупяцца як мага пашырыць сервісную базу, абслугу, але не захоўваюць самае дарагое – Пушчу. Бо дзеля чаго гэта рабіць, калі першародны гістарычны лес вось-вось упадзе канчаткова?.. Ды яго ўжо няма. Я лічу, што няма. Паўвеку я прахадзіў тут, праездзіў і хоць сёння магу даказаць любой камісіі, што ўсё тут затурзана і спаганена. Найарыгінальныя тыпы лесу ўсе ўпалі, а што ацалела – працягвае падаць катастрафічна.

А што робяць яны? Налягаюць на гасцініцы, рэстараны, тэнісныя корты і гэтак далей. Ды ёлкі-палкі! Хто сюды паедзе? Усё ж непамерна дорага. Ну паедзе наш ценявік, каб гульнуць, развеяцца ў ціхім лесе. Збольшага ён будзе задаволены. Для “новых” тут робіцца шмат. А што для дыдактыкі, для выхавання, для дапытлівых дзіцячых душ? Дзе культура, этыка, веды, любоў да прыроды? Ёсць вальеры, музей. Але ўсім зразумела, што гэтага да ўбогасці мала, каб Белавежскую пушчу паказаць сапраўды як унікум еўрапейскі. А галоўнае – дзе намаганні па яе захаванні як аб'екта нумар адзін нашай прыроднай спадчыны? Я вельмі шкадую, але павінен сказаць: у Белавежскай пушчы ўжо няма чаго паказваць турысту.

●●●

ТАК мяркую не я адзін. Выказваюцца многія, але неяк цішком, не высоўваючыся. Усе астатнія маўчаць, пераважна маўчаць. Прычым, маўчаць нашы прыярытэты, акадэмікі. Вы ад іх не пачуеце большменш вымоўнага, па-грамадзянску аб'ектыўнага і смелага адказу, таму што над імі пануе палітычная абстаноўка. Яны пазбаўлены магчымасці адкрыта, ўголас гаварыць пра тое, што думаюць. Асцерагаюцца пераследу. Разумець – разумеюць, наколькі катастра-

**КОЛА** CIRCLE

**Аўтограф аўтара**

*Хацелася б, каб ваша газета выхоўвала такіх актывістаў — заступнікаў прыроды, якія б кідаліся не на букецік “па-варварску сарваных пралесак”, а пад колы “Кіраўцаў”, што калечаць рэшткі першароднага векавога лесу.*

*Уладзімір Дацкевіч*

 

# КЛІЧ КАСАНДРЫ

фічнае становішча ў Пушчы. Часам іхняе разуменне глыбокае і роспачнае. Але каб біць у званы – не, яны таксама прыстасоўваюцца, нават тыя, здавалася б, каму не займаць аўтарытэту і мужнасці. Можа, не ведаюць, што рабіць, або разумеюць, што гэта будзе чарговай дарэмнай справай. Што нічога не зрушыш, а толькі запляміш мундзір. Напэўна, у кожнага ёсць свая рацыя. Людзі ёсць людзі, бог ты мой...

Праўда, спроба некалькіх беларускіх вучоных адваяваць Пушчу для навукі была, менавіта – спроба надаць ёй статус запаведніка і не дапусціць ідэю Нацыянальнага парка. Але нічога не выйшла. На палітычным узроўні іх меркаванне было адхіленае.

Безумоўна, надвор‘е ў Пушчы павінен рабіць эколаг, вучоны, а не нарыхтоўшчык з бензапілой ды сякерай.

Пытанні, вартыя глыбокіх навуковых даследаванняў, паўстаюць адно за адным. Аднак не бачна, каб навука за іх хапалася. Напрыклад, адно з такіх – ўзнаўленне гідралагічнага рэжыму Пушчы, аб чым я казаў. Ці тое ж высыханне ельнікаў, заняпад расліннасці.

Не, маўчыць навука.

Я не ведаю, ці можна яшчэ што-небудзь зрабіць, каб спыніць абвал Пушчы, запаволіць працэс дэградацыі і збяднення. Вельмі мала на гэта надзеі. Перамены да лепшага магчымыя хіба што ў выпадку, калі ў Беларусі наступяць палітычныя змены. Стварэнне Нацыянальнага парка было рэжымна-палітычным рашэннем і ніяк не навуковым, не дэмакратычным. Пушчы не патрэбны Нацыянальны парк. Тут павінен быць запаведнік, дзе б гаспадарыла навука. І не такая, каб сядзець ды шчыпаць пацыху што-кольвек для дысертацый. А навука мабільная, моцная, з імёнамі і аўтарытэтамі. Не служка, а гаспадарства. Дзякуй Богу, сёння нашы інстытуты клепаюць памалу маладыя кадры. Вось хай яны і прыходзяць у Пушчу. З іншымі падыходамі і задачамі. Перш-наперш, яны павінны захаваць Пушчу. Карыстацца, але ж не так. Секчы, але сем разоў адмераўшы. Няхай яны, эколагі, скажуць лесагаспадарнікам: *“Калі ласка, вазьміце. Але тое, што можна.”* Трэба аддаць ім кіраванне. Я веру ў сумленне новых людзей у Пушчы. Я веру ў розум тых, хто атрымае тут сапраўдную свабоду дзеяння. Дзеянняў на зберажэнне Пушчы.

Вясна, 1997.

*Гэтаму дубу пад 600 гадоў. У 1927 годзе яго спрабавалі спілаваць залётныя прамыслоўцы. Але марнасць задумы аказалася відавочнай. Дуб выглядаў непрыступным і прымусіў варвараў адступіцца, адкінуць пілу ўбок. Сілы былі не тыя. Не хапала духу, прагрэсу. Аднак чалавек не марнаваў час і не траціў надзеі. Стварыў машыны і механізмы, пракладваў дарогі ў самыя некранутыя нетры прыроды. А волат-пушчанец застаўся стаяць. Яго асланялі ўжо не законы, не ўказы, тым больш не мараль чалавечая. Дуб асланяў сябе сам. Сваімі памерамі. Моцай і шырынёй грудзей*



*Фота: Валерый Дранчук (“Неруш-прэс”)*

Міфалагічная Касандра – дачка траянскага караля. Закаханы ў яе бог Апалон надзяліў прыгажуню дарам прароцтва. Але гордая Касандра не прыняла кахання сонечнага бога і ён зрабіў так, каб у яе прароцтвы ніхто не верыў. Касандра тым чынам страціла здольнасць успрымаць навакольны свет такім, як яго бачылі астатнія. Яна прадказвала змрочную будучыню, у тым ліку падзенне Троі, уласную смерць. Але яе прарочым словам ніхто не даваў веры або не чуў яе зусім...

***Рэдакцыя “БП”** вельмі ўдзячная спадару Дацкевічу за шчыры маналог і не выключае, што ягоную пазіцыю падзеляць не ўсе аднолькава ахвотна. Тым, хто захоча выказацца ці адкрыта запярэчыць аўтару, гарантуем права голасу і месца на старонках газеты. У гэтым, дарэчы, найперш зацікаўлены сам Уладзімір Афанасьевіч. Дэманструючы непрыхаваную і паслядоўную волю да пераменаў у Пушчы (і не толькі), ён чакае такога ж зацікаўленага і, дадамо ад сябе, грамадзянскага водгуку.*



## КАНТРАПУНКТ CONTRAPUNCT

### І жаданы спакой, і душэўная раўнавага

***Міжнародны інфармацыйна-турысцкі цэнтр запрашае Вас наведаць Дзяржаўны нацыянальны парк “Белавежская пушча”. Нечуваныя траўныя пахі і настой стагоддзяў, крышталёва чыстае паветра падораць Вам жаданы спакой і душэўную раўнавагу.***

***Прырода расчыніць перад Вамі свае першародныя скарбы. Волаты-зубры, прыгажуны алені, грацыёзныя козы, векавыя дубы і ясені — далёка не ўсе багацці гэтага унікальнага кутка зямлі.***

***У нацыянальным парку прапануюць праграму на Ваш індывідуальны густ. Бавіць час тут будзе цікава, а перажытыя імгненні надоўга застануцца ў памяці...***

З рэкламнай улёткі *“Дзяржаўны нацыянальны парк “Белавежская пушча”.*

### Пушча – не заапарк, або Не ўсе сродкі годныя

Белавежская пушча заўсёды будзе вабіць людзей, бо чалавек з кожным днём робіцца больш адарваным ад прыроднага асяроддзя. А такія мясціны як Пушча кампенсуюць недахоп уражанняў. Аднак мушу сказаць пра іншае. Тое, што я ўбачыў, а гэта пераважна вальеры недалёка ад будовы адміністрацыі Парка ў Камянюках, зрабіла на мяне гнятлівае ўражанне. Можа, я празмерна чуллівы, але падумалася: прыехаць у такую лясную вольніцу як Пушча і ўбачыць пад страхам няволі зацкаваных тут чалавечай прысутнасцю “братоў нашых меншых” – хіба ад гэтага зведаеш пачуццё радасці? Хутчэй – расчараванне. Бо што такое Пушча? У маім уяўленні гэта рэштка дзікай прыроды, магутны абшар лесу. І ўсё, што тут жыве, — знаходзіцца пад знакам вольнасці, у спакоі і непарушнасці. Вальеры ў дачыненні да Пушчы — нешта зусім процілеглае, спрошчанае. Увогуле, вельмі дзіўная гэта прыдумка чалавека. Нібыта дзеля добрай мэты – рэпрэзентаваць жывёльны свет як мага паўней, “на свае вочы”. Аднак не ўсе сродкі годныя.

Разумею, што заспець аленя, лася альбо зубра ў хвіліны, калі ён сапраўды ўвесь у натуры, сам з сабою, і на ім пераліваецца кожная мышца, — не так проста, а часам цяжкадаступна. Але менавіта ў гэтым увесь сэнс. І падмяняць яго эфектам кшталту заапарка, значыць, недаацэньваць ролю самой Пушчы, яе відавочных пераваг. На мой погляд, арганізатары беларускага турызму павінны падумаць над альтэрнатывамі. А я пакуль што, з першага свайго досведу, нікому не параіў ехаць у такі няблізкі свет, каб прывезці адтуль замест радасці гнёт. Таму хацелася б, каб газета пісала пра запаведнікі іншых краін, дзе недахоп уражанняў кампенсуецца больш вынаходліва і дасканала.

***Уладзімір Іванкоў, работнік гандлю, Мінск.***



 



*...Толькі нявольнікі ды вартыя жалю невукі могуць прымаць на веру, што наша краіна малая, нічым такім не адметная, маўляў, ёсць краіны шмат багацейшыя за яе, і што нам, як ні круці, наканавана заставацца ў цяні мацнейшых суседзяў. Д'ябальская мана і аблуда.*
*"Не!" — адказваюць рэхам беларускія пушчы. "Не!" — званамі святыняў вяшчуюць абшары. "Не!" — струменяць з нетраў нашы крыніцы. "Не!" — круцяць галоўкамі краскі палёў і лугоў.*



**Бог сведка:**
падчас касавіцы, збору каласавых
**вельмі ўдзячная праца**
земляроба нярэдка абарочваецца
для братоў нашых меншых
**смяротнаю хваляй**
знішчэння. Пад нажамі касілак з-за
нялітасцівай тэхналогіі знаходзіць пагібель
шматлікае птаства,
мноства дзікіх жывёлін,
іхняе патомства.
**Завошта прыродзе чыніцца зло?**
Зменшыць балесныя страты прыроды нас заклікае
наша сумленне, голас зямлі і нашчадкаў,
**наш абавязак.**
Захаваем боскае правіла земляроба:
скошванне ўраджаю абавязкова належыць
зачынаць **з сярэдзіны**, з цэнтра –
каб разняволіць жывых істотаў,
не заганяць у пякельны кут,
даць міласэрны знак паратунку.



**Спынім забойствы...**

**КОЛА** CIRCLE

## Еўропа залучае Беларусь на цывілізаваны шлях

*Яшчэ ўчора "волшебница химия" дэманстравала нам свае цуды. І мы, зачараваныя, верылі ў прагрэс, які, вядома ж, мусіў ашчаслівіць наша жыццё. Прырода ў тыя часы павінна была нешта абавязкова аддаць, а мы яе ашукаць, бо гаспадарыць сумленна ніхто не збіраўся. Перыяд "экалагічнай мітынгоўшчыны", народжаны перабудовай і тым спосабам гаспадарання, што быў трыдцыйны, зрабіў экалогію модным напрамкам. Пры гэтым крык сапраўдных спецыялістаў тануў у акіяне балбатні і палітычнай кан- юнктуры*

*Экалагічная свядомасць не прыходзіць па загаду і не дасцца з наскоку. Яе трэба цярпліва фарміраваць з любові да кожнай жывой клеткі, жывога ліста праз усё жыццё, з маленства. Як, дарэчы, любоў да Айчыны.*

*Досвед краін, грамадскасць якіх раней, чым наша, сутыкнулася з экалагічнымі праблемамі, вельмі карысны. Еўропа як бы падштурхоўвае Беларусь да цывілізаванага шляху.Такім штуршком з'явіўся, напрыклад, Еўрапейскі (1995) год аховы прыроды. Жаданне зрабіць нешта карыснае прывяло вучоных Прыпяцкага запаведніка (цяпер Нацыянальны парк "Прыпяцкі") ў тураўскую школу №1. Навуковыя супрацоўнікі В.Шарай і В.Балбуцкі сустрэліся з вучнямі 10-11 класаў. Адбылася грунтоўная гаворка пры жывёльны і расліннны свет навакольнай прыроды, ахову знікаючых відаў, станаўленне і развіццё запаведнай справы на Беларусі. А школьны біёлаг Л. Флейтман , горача зацікаўленая ў экалагічным выхаванні вучняў, стала арганізатарам тыдня.экалогіі Яна падтрымала ініцыятыву па стварэнню гуртка юных эколагаў, якія наведваюць вучні тураўскіх школ. За час яго існавання ўдалося арганізаваць некалькі цікавых выстаў і экскурсій.*

*Відаць, было б вельмі карысна, каб пры запаведніках дзейнічалі Цэнтры прыродаахоўнай прапаганды з прафесійнымі прапагандыстамі і ў рэшце рэшт, каб уся моладзь рэспублікі была ахоплена прыродаахоўнай прапагандай. Шмат залежыць ад кіраўнікоў мясцовай улады, прыдпрыемстваў і ўстаноў — гэта так. Але яшчэ больш — ад грамадскай пазіцыі кожнага з нас. Нельга ставіца абыякава да сваёй бу-дучыні. А яна ў нашых дзецях, нашай зямлі і ў нашай прыродзе.*

***Іна Зеніна,***
*навуковы супрацоўнік*
*(Нацыянальны парк "Прыпяцкі")*



# Серэнады над балотамі

**Хто не ведае бакаса і не чуў яго спеву-бляяння, таму, відаць, не выпадала хоць трохі памачыць ногі ў асаковым балоце, памарыць з вудай ля ціхай рэчкі або зведаць іншыя сырыя мясціны нашага краю.**



***Ігар Бышнёў***
*(Бярэзінскі біясферны запаведнік)*

Такуюць самцы. Іхнім лётам павінна залюбавацца абранніца, што размясцілася ўнізе. Ці завабіцца жаданая істота, ці адкажа ўзаемнасцю на спрыт і ўмельства закаханага? Зацята, ані не губляючы вабнай кропкі і быццам прывязаны да яе, самец раз за разам робіць выразныя манеўраныя кружлянні, набіраючы вышыню. Уверх, вышэй, пад самыя воблакі! Амаль знікаючы з вачэй і раствараючыся ў паветраным бязмежжы. Каб затым – раптоўна і гэтак жа смела – рушыць уніз, вырабляючы неверагоднае піке ды шырока распусціўшы хвост. Пад час "падзення" вібрацыя пер'яў і крылаў нараджае мелодыю-песню. На зямлю даносіцца гарэзлівае "бляянне".

Колькі дзесяткаў метраў рашучага піке – і бакас імкліва ўзнімаецца ўвысь. Усё паўтараецца зноў.



*Балотны абшар.*
*Сонца яшчэ не ўзнялося.*
*Чакаць зусім нядоўга.*
*Праз імгненне яно пырсне промнямі,*
*мядзяным колерам афарбуе*
*бародкі рэдкіх сасонак, а потым па кары*
*дрэваў перакінецца на сфагнавыя*
*курганкі, стрэлкі асокаў,*
*на багуновы арнамент*
*у спляценнях травы.*
*Зусім, зусім нядоўга... Ды вось яно,*
*гэтае імгненне – сонца ўзышло,*
*і балота зарддзелася.*

*А яшчэ пачуеш аддалены*
*птушыны посвіст на ўскрайку балота,*
*нудныя крыкі кроншнепа,*
*апантаны запал зяблікаў*
*і пугавых свірстуноў...*

*Гэткай – у малюнкавай аздобе*
*і гуках суправаджэння – паўстае сцэна*
*спектакля – такавішча самых шматлікіх*
*у гэтых мясцінах кулікоў — бакасаў,*
*альбо, як іх трапна ахрысцілі,*
*нябесных баранчыкаў. Увага,*
*спектакль пачынаецца!*

Падчас імклівага піке распушчаны хвост бакаса ператвараецца ў адметны музычны інструмент – асобныя пёркі рытмічна дрыжаць на паветранай хвалі, і гэтае *vibratio* нараджае гукі, падобныя на бляянне. Міжволі ўзнімаеш галаву, каб доўга не адарваць зачараваны позірк ад вабнага птушынага лёту.

Часта суродзічы-халасцякі, захопленыя дзеяй такавання, далучаюцца да палётаў суседа. Тады ўжо над адным месцам пераплятаюцца паветраныя гульні некалькіх птушак...

Седзячы на зямлі, узбуджаны самец нарэшце падае свой шлюбны покліч – гучнае ваблівае "тэ-ке, тэ-ке...". Самка адказвае яму падобным, але больш высокім па тону гукам. На сцэне – дуэт, перазоў, ваб і адклікання.

Бакас такуе ўвесь чэрвень і да сярэдзіны ліпеня. Бляянне над балотамі пачуеш не абавязкова на золку, але і ўдзень, пад спякотным сонцам.

Калі надарыцца патрывожыць бакаса, ён будзе ад вас адлятаць зыгзакамі, нізка над зямлёю і своеадметна пры гэтым гракаючы.

З першых дзён птушаняты бакаса надзіва рухавыя і маюць добрую ахоўную афарбоўку перад пагрозаю небяспекі. Дбанне пра патомства ўласцівае як для самкі, так і для самца. Пры гэтым вывадак падзяляецца – частку малых водзіць адна дарослая птушка, частку — другая.

Падрастаючы, бакасы мяняюць месцы кармлення. З сярэдзіны ліпеня птушак можна бачыць і ў больш пажыўных за абжытыя балоты мясцінах – мокрыя лугі, гразкаватыя

## SUMMARY

Igor Byshnev, a research scientist at Berezino Biosphere Reserve, talks about the snipe which inhabit wet meadows in Belarus (he also took the photographs). The novelist Yanka Bryl adds confessions of love for his native places to the ornithologist's notes. As the old Belarusian saying so rightly goes — "*Every sandpiper praises its own marsh*". **Pages 8-9.**



*“Калі б лёс балотаў вырашаўся ўсеагульным рэферэндумам, напэўна, ад іх бы ўжо нічога не засталося”.*

М. Софер, 1972

водмелі, дзе заўсёды знойдзецца любімая пажыва – чарвякі, слімакі, карэнчыкі травяністых раслінаў. Пералятаюць сюды яны вечарамі, каб за ноч добра пад‘есці. Раніцай на досвітку кулікі вяртаюцца да аблюбаваных сваіх мясцінаў – адпачыць ды, можа, спакойна падумаць пра адданасць свайму балоту.

*в. Домжарыцы*

* *памеры бакаса сягуюць блізка 27 сантыметраў. Гэта не кажучы пра даўжыню дзюбы*

* *гняздо, пераважна на купіне, ладуе самка і нясе чатыры яйцы.*

* *адзін з чатырох?*

* *роздум на “сваім балоце”*





Нават пэдзь вільготная балацінка, якая большую частку года застаецца сухой, можа прыдацца адзіным прытулкам, дзе магчымае размнажэнне мясцовых відаў. *“Ecologianewsletter”, №38*

*Фота: Ігар Бышнёў.*

# “Ёсць свая мудрасць у тым, што кожны кулік сваё балота хваліць”

*Бываюць публікацыі ў прэсе, якія цяжка абмінуць, каб не адгукнуцца, не ўважыць іх праўдзіва прачулае слова. Яно, здаецца, патрэбна не толькі табе, але іншым, хто зажурыўся па ім і гэтак жа ўзрадуецца яму, калі прачытае. Так трапіла да нас газета “Наша слова”* (№36,1996) з публікацыяй “Душа на рацэ часу. Гутаркі з Янкам Брылём.” – яе перадаў рэдакцыі сябра нашай газеты бібліёграф Валерый Герасімаў. І фрагменты, што называецца, самі папрасіліся на старонкі чарговага выпуска – гэта, спадзяёмся, зразумее чытач, які падзеліць з намі радасць першай на старонках “Белавежскай пушчы” сустрэчы з вядомым майстрам лірычнай прозы.*

...Не ведаю, што было б са мной, каб я заставаўся гарадскім жыхаром, нарадзіўшыся ў Адэсе. Мне было пяць гадоў, як мяне прывезлі ў вёску, і гэта стала такой зачараванасцю, што дагэтуль памятаю. Раптам адчуеш пах свежага сена з воза, той самы пах, які ты адчуў тады, першы раз; ці ўспомніцца, як памагаў маці вечарам капаць бульбу: ты яе падбіраеш і вось яна ў цябе ў руцэ і нават, калі забудзешся, зямля з яе ў рот пападзе.

Ёсць свая мудрасць у тым, што кожны кулік сваё балота хваліць. Не абавязкова жыць у нейкай пышнай прыродзе, нарадзіцца ў выключна прыгожай мясцовасці. Калі браць толькі Беларусь, то колькі я ўжо адкрыццяў меў у сваім жыцці і яшчэ колькі іх буду мець. Я добра вывучыў і абжыў Нарачанскія азёры – і на лодцы з вёсламі, і на маторцы, і з рукзаком вакол гэтых азёр многа хадзіў. Шмат было адкрыццяў, калі з Адамовічам і Калеснікам збіралі матэрыял для кнігі “Я – з вогненнай вёскі”. Дагэтуль бачу дубовы лес над Убарцю – прыгажосць такую, ці непраходныя лясы з балотамі ў Расонскім раёне, ці раскошныя Палескія раўніны з процьмай буслоў, дзе па дзве буслянкі на адной хаце ў вёсцы... Але я не ў крыўдзе на сваю вёску: яна ў нас палявая, яна ў нас балоцістая. На прадвесні і ўвосень гэта не проста балота, гэта сіні глей – ідуць і гразнуць каровы, вымя валочыцца па гразі. Лесу блізка няма – адны шпакі і перапёлкі, салаўя ўпершыню пачуў дзесьці ў 17 гадоў, як ездзілі лазу рэзаць... Але тут і Скарыну можна згадаць: ласку найбольшую маюць да тых мясцін, дзе нарадзіліся. Якая б ні была прырода сціплая, а яна вельмі многа дае для пазнання і захаплення.

У сваім Крынічным (лясны надняманскі куток на Карэліччыне - *рэд.*) жыву з 1978 года і ніяк не нацешуся. Мне здаецца – і тое самае, і не тое самае. Часам да жонкі падыду, загавару пра журавоў. А яна адразу: “Пісаў, пісаў!..” А я ўсё ж не магу не хвалявацца. Курлыканне журавоў мяне можа спыніць. Я буду стаяць і слухаць. На жаль, цяпер няма вечнага спадарожніка нашага ў маленстве і маладосці, і тады, як пасвілі, і тады, як зямлю аралі,— жаўранка няма. Дахімічыліся. Ідзеш па цудоўным збожжы сцежкай і не чуеш жаўранка. Калі яны зноў запяюць? Я мяркую, што запяюць на Панямонні нашым: не было ж буслоў, а цяпер іх шмат – з`явіліся жабы, з`явіліся і буслы.

*“У сваім Крынічным жыву з 1978 года і ніяк не нацешуся.”*

Пазнанне прыроды пачынаецца з усяго. Памятаю, як пасля вяртання з Адэсы ў Загора прыходзілі наведаць маму сваячкі і суседкі і прыносілі ў падарунак курэй – стракатых, з чырвонымі грабянямі. Гэта мяне так уразіла, што я доўга прыглядаўся да іх, паклаўшыся дзеля зручнасці на падлогу. Таксама як цяга да гукаў, як цяга да песні, як цяга да слова, змалку была цяга і да прыроды. Пасля прыйшлося бачыць яе, самую розную, у падарожжах па Еўропе з заездам у Турцыю, Італію, Грэцыю, у падарожжах па Індыі, у размаху такіх рэк, як Енісей, Волга, Амур, у палётах над акіянам,— і ўсюды яна давала вельмі многа захаплення і харчу душэўнага. І адчуванне гэтай красы жыве ў мяне, і без яго не было б нічога.

**пакуль рыхтаваўся нумар, газета Таварыства беларускай мовы “Наша слова”, не маючы матэрыяльнай падтрымкі з боку дзяржавы, спыніла сваю дзейнасць.*

# ПА-НАД МЕЖАМІ

OVER THE BARRIERS

## Бадзёрая песня квакшы

*Раз на год у Белавежы (Польшча) праводзіцца Міжнародны семінар па праблемах амфібій з прыездам сюды вучоных-даследчыкаў з Беларусі, Германіі, Францыі, Гішпаніі, Даніі і іншых краін. Сёлетні семінар падзіў Нацыянальны парк польскай часткі Пушчы (Парк нарадовы).*
*Да ўдзелу быў запрошаны і адмыслоўца з Гародні, дацэнт мясцовага універсітэта Віктар Бахараў. Ягоная "справаздача" дае падставы меркаваць, што выбар месца і запаведны фон зносінаў людзей-аднадумцаў быў надзвычай спрыяльны для дыялогу аб шляхах захавання прыродных багаццяў.*

## і сем буслоў у небе

*Віктар Бахараў. 48 гадоў. Дацэнт Гродзенскага дзярж-універсітэта імя Янкі Купалы, спецыяліст па вужаках і амфібіях. Аўтар двух манаграфій. Працаваў у Белавежскай пушчы. Разам з польскімі калегамі бярэ ўдзел у сумесных даследаваннях.*

**П**ушча сустрэла халадком яшчэ лёгкіх, амаль празрыстых цянётаў, песняй дразда і куваннем зязюлі. Хоць надвор'е пакуль не шчодрае на цяпло, трава памалу буяе ды зелянее, а лес паволі прыбіраецца ў свой непаўторны ўбор. У даліне ракі падае голас салавей. Усё быццам знаёмае і блізкае, аднак разумееш цану такіх салаўіных куточкаў, якіх на зямлі менш ды менш.

**Р**аніцай трэцяга дня паехалі на ўлікі амфібіяў і патрапілі ў райскае месца – квяцісты ярка-жоўты дыван пярэсны. Спеўна укаюць жарлянкі, а з суседняе ўпадзіны раздаецца рытмічна-бадзёрая песня квакшы. Датчанін Ларс узрушана прызнаўся – хачу ў гэтым месцы застацца навечна: пабудаваць дом і нікуды не ехаць. Высока ў нябёсах, нібыта ўзнесеныя паветрам, кружлялі буслы. Мы налічылі іх сем. Такое не часта ўбачыш. У народзе кажуць, што гэта на вялікае шчасце – сем буслоў у небе.

Непарухлівасць Флоры, якая сёлета не спяшаецца панаваць прыродай, крыху кантрастуе з рухавай і па-мужчынску смелай хадой Дэметры – ахоўніцы жывёлы. Замаруджанасць росту адчуваецца на ўсім, што прагне распускацца і квітнець, а жывёльны свет тым часам настойліва ўладжвае свае справы паводле законаў развіцця і сезоннага раскладу.

**Р**аніца шостага траўня. Шэрыя хмары, пераганяючы адна адну, спяшаюцца апырскаць зямлю халаднаватай вільгаццю. Парыўна дзьме свежы ветрык. Аднак у лесе пануе свой рытм, кожны куточак напоўнены рухам і гукамі. Любоўныя тэлеграмы даносіць дзяцел. З кустоў чуваць голас аўсянкі. Над краем лесу такуе бакас.





*брама ў музей прыроды



* тое, што вужака поўзае, жаба скача, а яшчарка зашываецца ў рэшткі пня, — гаворыць за паўнату і разнастайнасць жыцця, дае чалавеку падставу спачатку здзіўляцца і радавацца, а пасля — ведаць і берагчы прыроду незалежна ад сімпатыяў і антыпатыяў.

**У** праграме семінара – наведанне абсалютнай запаведнай зоны. Уражвае ўваход у гэты адвечны схоў: адмысловая брама, магутныя валуны ў гонар пачынальнікаў: Юзафа Пачоскага – першага дырэктара парка, Уладзіслава Шафера – выбітнага батаніка, Аўгуста Дэнеля – пачынальніка даследаванняў млекакормячых Пушчы і Яна Карпінскага – прафесара, даследчыка і папулярызатара багаццяў Белавежскага лесу.

Ад камянёў памяці, выгінаючыся дугою, ляжыць дарога для турыстаў. Па ёй мы трапляем у казачны лес з дрэвамі-веліканамі, пакрытымі, быццам плюшам, тоўстым слоем моху. З галін малюнкава звісае барадач-лішайнік. Глыбей, у нетры Пушчы можна збочыць па арыгінальнаму паветранаму мастку над лясною травой. Гэта нагадвае фантастычную дарогу на магнітнай падушцы ў парку дыназаўраў мезазойскай эры. Мінаем невысокі масток і "высаджваемся" на паляне – месцы, дзе сілкуюцца касмічнай энергіяй. Дзея адбываецца каля каменя з адбіткам ступні Божай Маці. Наша група адразу падзяляецца на ідэалістаў і матэрыялістаў. Адны пашанотна, з паднятай рукой, заміраюць, заплюшчыўшы вочы, астатнія насычаюцца энергіяй, жуючы бутэрброды.

Зноў ступаем на лясны грунт дарогі і ўжо заміраем перад "паказальнымі" скокамі маліnaўкі. Смелая мілая пташка! А яшчэ за тры гадзіны падарожжа па сапраўднай Пушчы мы сустрэліся з маленькай зорачкай – шэрай сімпатычнай жабай, у якой надзіва разумныя ды маляўнічыя вочы, нясмелым вужом, трохпальцым дзятлам, сойкай, лясной галубкай і шматлікім іншым пушчанскім насельніцтвам. Выходзячы за браму гэтага дзівоснага схову, які называецца абсалютнай запаведнай зонай, мой сябра сказаў: "*Фантастыка! Такога велічнага музея прыроды я пакуль не бачыў*". Я таксама быў ахоплены незвычайным уражаннем. Шкада, што прыроды ўсё менш там, дзе тэрыторыі адкрытыя для чалавека. Ды і назваць тое прыродай на дэградаваных спустошаных ландшафтах часта ўжо немагчыма. Гэта яскрава адчуваеш, калі бачыш жывую сапраўдную прыроду, астраўкі якой сям-там ацалелі. Гэта засведчылі ўсе ўдзельнікі сустрэчы, якія з'ехаліся з Гішпаніі, Швецыі, Галандыі, Даніі, Беларусі і Польшчы дзеля адзінае мэты – абмеркаваць праблемы **захавання і памнажэння багаццяў прыроды**.



**С**емінар, несумненна, быў карысны не толькі знаёмствамі на натуры, але і добрай вучобай у аудыторыях. Удзельнікі з цікавасцю паслухалі даклад дырэктара парка Чэслава Аколава, а таксама змястоўныя паведамленні аб выніках сумесных даследаванняў пані Енджыеўскай (Польшча) і спадара Пікуліка (Беларусь) аб ворагах амфібіяў. Датчане наладзілі прэзентацыю відэафільма і выдатна распавялі пра "сваіх" амфібій і захады па іх ахове.

Вынікі семінара былі відаць падчас развітання, калі ўдзельнікі абменьваліся літаратурай, адрасамі і пажаданнямі сустрэцца яшчэ. У гэтым жа месцы.

**Датчанін Ларс:**

***"Хачу ў гэтым месцы застацца навечна: пабудаваць дом і нікуды не ехаць.***

SUMMARY


**B**iologist Viktor Bakharev took part in an international seminar on the problems of amphibians which was held in the Polish part of Pushcha National Park. His diary notes are the basis for an article entitled The Cheerful Song of the Frog and Seven Storks in the Sky.


## КОЛА CIRCLE

### Радкі з канверта

*Пасля знаёмства з газетай (я стаць яе падпісчык), цвёрда наважыў супрацоўнічаць з вамі. Больш прыстойнага выдання апошнім часам я не сустракаў. Такую добрую, патрэбную газету рабіць за такі невялікі даступны кошт пры адсутнасці заможнага спонсара — проста неверагодна. Добра разумею складанасць вашага становішча і таму выказваю захапленне.*

*Газета, паўтараю, вельмі патрэбная і, галоўнае, у ёй захоўвацца, на мой погляд, багатая, сапраўды беларуская мова. З яе старажытным каларытам, але разам з тым і гарманічна адаптаваная, сучасная. Чытаеш, і душа адпачывае. І яшчэ. Вы, лічу, абралі правільны ключ зносінаў з чытачом.*

*У траўні падараваў газету датчанам і галандцам..*

Аўтар

# Чытачы газеты цікавяцца:

## хто цяпер гаспадар Белавежскай пушчы? якая расліна ўважаецца за самую "беларускую"? што рабіць з "тэхналагічным" смеццем? на чые сродкі ладзяцца выпускі нашай газеты?

*Мяркуючы па зваротнай сувязі, рубрыка "Кола" зацікавіла чытачоў. Шмат водгукаў з добрымі словамі і пажаданнямі. Асобная папка – з пытанняў, на якіх мы гэтым разам засяродзілі ўвагу. Адказы не ёсць канчатковымі і поўнымі. Форма "пытанне-адказ" вымагае сціспасці. Да некаторых тэмаў, магчыма, будзем вяртацца, як, прыкладам, прыбіранне адходаў і стан смеццезвалак. Дзякуй усім, хто нам напісаў або звязаўся з рэдакцыяй па тэлефоне. Заўсёды рады!*

*Чытаю вашу газету, але пакуль што не ўцяміў, хто цяпер гаспадар Белавежскай пушчы. Фазэнда, якая доўгі час называлася запаведна-паляўнічай гаспадаркай, па-ранейшаму засталася фазэндай для выбраных, ці, можа, перайшла ў гаспадарства навукі, сферы, так бы мовіць, найвышэйшага прызначэння?*

**Аляксей Бондар, Асіповіцкі раён.**

Дзякуй за пытанне, спадар Аляксей. Адчуваецца, Вы трохі ў курсе перацягвання каната паміж вучонымі-акадэмікамі, якія былі супраць Нацыянальнага парка, і тымчасовым, 1991 года, Саветам Міністраў. Прапанова аб статусе Пушчы як запаведніка не была прынята. Так званая *"запаведна-паляўнічая гаспадарка"* саступіла Дзяржаўнаму нацыянальнаму парку *"Белавежская пушча"*. Ідэя запаведнасці, як і навука, панесла відавочную паразу. Адказнасць за будучыню Пушчы як навуковай і прыродаахоўнай каштоўнасці ўзяў на сябе ўрад (пастанова падпісана В. Кебічам), а затым Адміністрацыя прэзідэнта, а больш дакладна, Кіраўніцтва Справамі на чале з Іванам Ціцянковым. Менавіта гэтай структуры прэзідэнцкай адміністрацыі сёння падпарадкаваны ўсе службы Нацыянальнага парка *"Белавежская пушча"*.

Ці засталася Пушча *"фазэндай для выбраных"*? Вядома ж, лепш калі б яна, Пушча, перайшла, як Вы кажаце, ў сферу найвышэйшага прызначэння. Пра гэта мы мяркуем напісаць у бліжэйшых нумарах.

*Белавежскі зубр, бадай, ці не самы "нацыяналізаваны" прадстаўнік беларускай фауны. Ці ёсць раўназначны адпаведнік у раслінным свеце?*

**Надзея Пятрок, Брэст.**

Калі браць дрэва, дык гэта найперш дуб. Аднак ёсць недакладнасці ў *"нацыяналізацыі"* гэтых сімвалаў, бо зубрам ганарацца не адно ў Беларусі, але і ў суседняй Польшчы. З дубам сітуацыя яшчэ больш неадназначная: амаль усе еўрапейскія народы арыйскага паходжання маюць яго за свяшчэннае дрэва. На гэта скажам так: і няхай! І ўзрадуемся, што падзяляем гэтыя каштоўнасці, а заадно бяром на сябе адказнасць за іх захаванне ды памнажэнне.

Дарэчы, да 19-га стагоддзя ўшанаванне дубоў на Беларусі мела яшчэ рэлігійна-язычніцкі характар: каля іх правілі маленні, бралі шлюб, звярталіся ў замовах як да лекавай і магічнае моцы. Цікава таксама, што ў замовах дуб атаясамлівае мужчынскі пачатак. Тым часам як бяроза ды ліпа – жаночы.

З кветак, паводле фальклорных ды літаратурных крыніц, найбольш *"нацыянальнымі"* ўважаюцца васілёк (валошка) і папараць-кветка.

Для Вас, Надзея, будуць, напэўна, цікавымі нашы публікацыі пад рубрыкай *"Твой востраў"* (гл. "БП" №№ 1-5), у якіх біёлагУладзімір Галубкоў надзвычай малюнкава распавядае пра багаты раслінны свет нашай Бацькаўшчыны з яе магчымасцямі ды таямніцамі.



**Лета — найвымоўная суразмоўніца ў нашай любві да ўсяго, што завецца Радзімай, Бацькаўшчынай, Старонкай Роднаю. Гэтую думку, на наш погляд, выдатна ілюструе і здымак нашага чытача і аўтара Аляксандра Гутоўскага. Старонка Родная — вядома ж, яна і лясная, і азёрная, і поўная казачных таямніц ды чароўных імгненняў.*

*Што робіцца ўладамі, каб хоць неяк утаймаваць абвальны наступ адходаў на навакольнае асяроддзе? Цяжка падумаць, у што ператвараюцца нашы лясы, аселіцы, нават падворкі і чым пагражае гэты працэс, калі яго не спыніць. Цяпер ужо на вясковай звалцы вы ўбачыце не якую-небудзь дробную сярмяжную старызну, а процьму "новага" смецця — і шматгабарытнага, і тэхналагічнага, і таксічнага. Дзіўна тое, што "спісаныя каштоўнасці", прабачце за таўталогію, яшчэ ўяўляюць пэўную каштоўнасць, маглі б прыдацца ці пайсці на перапрацоўку. Можа, варта ўспомніць традыцыі 50-60 гадоў, калі па вёсках ды хутарах ездзіў на фурманцы "анучнік" і збіраў у людзей старыя рэчы, якія выйшлі з ужытку. Мне здаецца, улада не хоча як след паламаць галаву, каб арганізаваць збор тары, макулатуры, старога адзення, лому і інш. (пералік можна доўжыць). Людзі ахвотна ўсё раскладуць па "кучках" і аддадуць за мыла, зубную пасту, шампунь і г.д.*

**Ірына Ламака, г.Бешанковічы.**

Праблема сапраўды актуальная, і Вашы падказкі, Ірына, зусім дарэчы. Праўда, праблему збору смецця, яго захавання часта ў міністэрскіх кабінетах "акругляюць" да паняцця "павышэння ўзроўню выкарыстання другасных рэсурсаў". Вось якую інфармацыю на гэты конт мы атрымалі з Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. У кароткім перакaзе можам канстатаваць наступнае.

Ёсць тэндэнцыя павелічэння нарыхтовак другаснай сыравіны, бо ў гэтым з'явілася патрэба – шэраг прадпрыемстваў перайшлі на яе выкарыстанне.

Больш нарыхтоўваецца макулатуры, хоць магутнасці перапрацоўкі занятыя ўсяго на 60 працэнтаў.

Павялічыўся попыт на палімерныя адходы. У абласцях з'явіліся прадпрыемствы, якія выпускаюць з іх чарапіцу.

У краіне існуе сетка нарыхтоўчых прадпрыемстваў Белкаапсаюза (збор і пастаўка такіх рэсурсаў). У стадыі развіцця нарыхтоўчая сетка "Белдругрэсурсаў".

Вельмі мала скарыстоўваецца ў якасці другрэсурсаў шкляная тара і адпрацаваныя аўтапакрышкі, чакае поўнага вырашэння праблема збору бытавога металалому, асабліва кузавоў машын, у гэтай справе не задзейнічаны як трэба рыначныя механізмы.

28 мая 1997 г. Савет Міністраў прыняў Пастанову №595 *"Аб мерах па паляпшэнні выкарыстання адходаў вытворчасці і спажывання"*. Вызначаны спецыяльны ўпаўнаважаны дзяржаўны орган па каардынацыі дзейнасці міністэрстваў, дзяржаўных органаў кіравання, юрыдычных асобаў – гэтым органам з'яўляецца канцэрн "Белрэсурсы".

**Замест каментарыя**. Газета "Белавежская пушча" прапануе новаму органу правесці прэс-канферэнцыю. Але не ў фешэнебельных залах, а на якой-небудзь не самай далёкай ад цэнтра сталіцы гарадской звалцы. Свой удзел гарантуем.

*Хто адпускае грошы на выпуск газеты "Белавежская пушча"? Справа гэта, ведаю, дарагая. А рэкламы ў вас небагата. Ды і набыў я газету ў кіёску за 5 тысяч — якая тут самаакупнасць! Турбуюся за тое, каб газета неяк выжыла, не здалася...*

**Ігар Церабун, Маладзечна.**

Пра сваё фінансавае становішча газета пісала ў папярэднім нумары. Мы незалежнае недзяржаўнае выданне і грошы бярэм толькі з "чыстых" рук і ў якасці падтрымкі нашага выдання менавіта як незалежнага і прыродалюбнага. Выпускі ў асноўным ладзяцца за кошт самарэалізацыі, каротка-часовых пазык ды ахвяраванняў, поўнай адсутнасці штату і памяшкання. Невялікую частку даходаў складаюць грошы падпісчыкаў, рэклама.

Летась мы замовілі "сваю" долю з пазабюджэтнага экалагічнага фонду (грошы падаткаплацельшчыкаў і прыродакарыстальнікаў), аднак на 15 чэрвеня бягучага года, больш як праз сем месяцаў, не атрымалі адказу з Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і якое размяркоўвае сродкі фонда.

Тымчасам, як стала вядома, міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Міхаіл Русы чытае нашу газету і мае сваю думку пра выданне. Апошні нумар ён заспеў у Брэсце падчас камандзіроўкі і быў прыемна здзіўлены, паводле яго прызнання, што газета "мяняецца ў лепшы бок". Было цікава пачуць ад міністра, што выданне мае файны знешні выгляд, асабліва добрае ўражанне пакідаюць фотаздымкі, якія ён ацэньвае як вельмі цікавыя і ўдалыя. Нам застаецца толькі спадзявацца, што і Міністэрства "зменіцца ў лепшы бок", с павагай паставіцца да інстытута недзяржаўных выданняў на Беларусі ў асобе нашай газеты.Лічым, што падтрымка нашага выдання зробіць гонар любому міністэрству і любому міністру.

SUMMARY

This letters page is devoted to readers' questions to which we provide short answers.

# Паэзія і проза грыбных урочышчаў

**Эканамічныя ўмовы зрабілі некалі "ціхія паляванні" даступным сродкам паляпшэння харчовага дабрабыту.**

*У першых днях чэрвеня, за тыдзень перад Зялёнымі святамі (Тройцай) – пайшлі грыбы. Баравікі, падасінавікі, абабкі... – тое, што адразу з'явілася на гандлёвых пятачках у гарадах ды мястэчках. На жаль, з прыходам сезону адразу ж з'яўляюцца і першыя сімптомы небяспекі: грыбныя дні – грыбныя атручэнні. Пра іх ахвотна паведамляе прэса. Як бы мы ні спрабавалі жыць не ведаючы, якое "надвор'е" на двары, жорсткія рэаліі даюць свой знак. Аднойчы, падчас з'яўлення такой публікацыі ў друку з сенсацыйным назовам "Мутанты з грыбнога ўрочышча" я сустрэў міколага Белавежскай пушчы Паўла Міхалевіча. Назіранні, якімі ён тады падзяліўся, засталіся на дыктафоне. На жаль, не мінула і года – інтэрв'ю трапіла ў лік пасмяротных: Паўла Кірылавіча не стала. Але думкі, перасцярогі, назіранні – жывыя і надзённыя... Голас трошкі стомленага, але поўнага жыццядзейнага аптымізму чалавека... Існасць рэчаў гэтага свету яго хвалявала да апошняга дня і апошняй хвіліны... В.Д.*

### *Сакрэт мутантаў, альбо Непарушнае правіла грыбніка*

Ёсць вялікая небяспека падылетанцку ацэньваць факты атручэнняў. Там, дзе неабходна думка мікологаў ці проста людзей кампетэнтных, часта бярэ верх альбо нейкая журналісцкая прыдумка, узлёт фантазіі альбо проста здагадка. Вельмі лёгка грыбныя атручэнні звязваюцца з Чарнобылем, хоць гэта не так. Прычына як правіла мае паходжанне больш традыцыйнае, хоць і не менш інтрыгоўнае.

Праблемы пачынаюцца ўжо там, дзе людзі не ведаюць грыбоў. З'ява ў наш адукаваны час досыць парадаксальная, але распаўсюджаная. Калі мы ў агульнай кучы маем 2 тысячы відаў грыбоў, спецыяліст-адмыслоўца разбярэ з іх тысячу, дык наш сярэднестатыстычны зборшчык назаве 15-20 відаў. Усё! Больш ён не ведае.

І вось надыходзіць сезон. Людзі масава рушаць у лес. Толькі частка грыбнікоў збіраюць добрыя, правераныя на свой розум і досвед грыбы. Большасць, паводле маіх назіранняў, грабуць ледзь не ўсё падрад. Што знайшоў, тое і панёс... Пасля ў прэсе чытаем "сенсацыі". І загалоўкі ўсё больш падобныя: вось, маўляў, гэтыя грыбы-мутанты! Што ж гэта за грыбы? Збіралі добрыя, нібыта годныя грыбы, а ў рэшце рэшт дзве сям'і атрымалі смяротныя атручэнні. І далей пра мутанты: маўляў, чарнобыльская радыяцыя нарабіла... Папрасту кажучы, гэта лухта. Збіраюць зялёнкі, сыраежкі, а заадно бяруць і белую паганку – ну што тут зробіш, нават не ўсе яе бачылі на свае вочы. Хопіць аднаго такога "мутанта", каб вячэра для гэтай сям'і была сапсаванай, ці ўвогуле апошняй.

Людзі, кіруючы ў лес, нярэдка пакідаюць дома непарушнае правіла: браць толькі тыя грыбы, якія добра ведаеш, і катэгарычна не браць такіх, у якіх не разбіраешся альбо цвёрда не ўпэўнены. У лесе шмат ядавітых грыбоў, якія ты можаш узяць памылкова, і ў выніку – непапраўны зыход ці вялікія праблемы на бальнічным ложку.

### *Грыбы вядомыя, ядомыя і...*

Цяпер крыху другі бок медаля. Ці мажліва атруціцца грыбамі, якія можна есці? Так, мажліва. У тым выпадку, калі вы будзеце збіраць іх, напрыклад, у горадзе. Як вядома, экалагічная абстаноўка тут даўно "зашкаліла", куды ні кінь – поўна выкідаў, самых розных, а грыбы, што таксама не сакрэт, маюць "звычку" набіраць гэтыя запасы ў сваіх пладовых частках. Гарадскія скверы і паркі, на жаль, не могуць быць выключэннем, хоць часам прэса дае "заміляваную" інфармацыю пра грыбы ў парку як прыемную навіну. Ці не лепш было б праверыць тыя грыбы ў санстанцыі на іх чысціню? Ёсць катэгорыя зборшчыкаў, якія прызвычаіліся збіраць грыбы ў зялёных прысадах уздоўж трас. Шведы, ведаю, лічаць, што 250 метраў направа і 250 – налева ёсць тэрыторыя загадзя небяспечная. Тут могуць расці вельмі спакушальныя, здаровыя на выгляд ядомыя грыбы, але збіраць і спажываць іх надзвычай рызыкоўна.

### *Тыповы сюжэт: звалка ў лесе*

Калі далей рухацца метадам выключэння загадзя неспрыяльных для грыбазбору мясцін, дык нельга не скіраваць нашу ўвагу на сметнікі. Яны ўжо нярэдкая з'ява ў лесе. Сюжэт вядомы – самазвал заехаў у ельнік і вываліў туды смецце, у якім апроч бляшанак ці бітага шкла знойдзеш і нешта больш "цікавае". Памятаю, быў выпадак, калі дзесяткі людзей атруціліся белымі грыбамі. Пачалі шукаць прычыну: у чым жа справа? Да зборшчыкаў недаверу не было – вопытныя, як кажуць, сабаку з'елі. Пачалі разбірацца. Высветлілася, што грыбы назбіралі ртуці. Амаль той жа сюжэт: мясцовая бальніца вырашыла праблему адходаў.

Увесь хламазд пакідалі на машыну і завезлі ў бліжэйшы



*Фота: Валерый Бысаў (г. Крычаў). З архіва "Неруш-прэс"*

* *дзівацтвы прыроды выглядалі б для нас куды больш бяскрыўднымі ды вартымі замілавання, калі б не горкі досвед апошняга часу з пагрозай грыбных каварстваў... І ўсё ж паглядзім на гэты рэдкі здымак з даверам і ўсмешкай.*

> Вытворчы громазд, які спарадзіў абвал пабытовых адходаў, кранууся і лесу, уехаў шарокімі копамі ў шаты зяпёнага ўлоння, каб зрынуць абіркі і непатрэбшчыну, воляй бяздушных людзей здзейсніць гвалт, пасля якога "трава не расці"

лес. А ў зваленай кучы апынуліся нягодныя прыборы з ртуццю. Вось вам і падстава для канструявання здагадак накшталт "чарнобыльскіх мутантаў".

Што такое Чарнобыль і яго наступствы? Гэта тая ж экалогія. У абшарах, забруджаных радыеактыўнымі элементамі, грыбазбор увогуле забаронены ці строга абмежаваны: ёсць адмысловыя карты, дзе "можна", дзе "нельга".

Белавежская пушча, дарэчы, належыць да тае зоны, дзе радыяцыя роўная фону. Яна ёсць. І ёсць асобныя віды грыбоў, якія нават у такіх "фонавых" варунках здольныя шматразова набрацца гэтага фону. Напрыклад, шмат дзе любімы польскі грыб. Сабраны нават тут, у Пушчы, ён будзе "зашкальваць" прыбор. Чаму? Таму што гэта яго спецыфіка. Як мы грыбы, так ён збірае радыяцыю. І не толькі. А ўсё што заўгодна. З ім трэба абыходзіцца асцярожна – калі браць, дык скарыстоўвацца толькі пасля праверкі.

### *Не рызыкуйце!*

Як бачым, гарантыі бяспекі грыбоў падмацоўваюцца месцам іх збору. Калі вы адыдзеце на кіламетры два ў лес,



** Павел Міхалевіч любіў здзіўляць грыбнымі трафеямі. Такіх дажджавікоў і напраўду сустрэнеш нячаста. Аднак — увага! — і сярод дажджавікоў ёсць ядавіты несапраўдны ( на зрэзе мякаць сінявятая альбо чорна-фіялетавая).*

*Фота з сямейнага альбома.*

адчуеце, што лес чысты і самавіты, — лічыце, усё ў парадку. Калі ж вырашылі пашукаць грыбнога шчасця дзе-небудзь каля трасы ці ў канавах сумніўнага паходжання, у гарадскіх парках і скверах, вы рызыкуеце. Пяцьдзесят на пяцьдзесят.

А самы небяспечны "мутант" – няведанне грыбоў і месцаў іх збору.

Дарэчы згадаць шампіньёны. Людзі мяркуюць, што шампіньён – значыць усё. А я кажу "не", не ўсё, тут могуць быць нечаканасці. Шампіньён звычайны, шампіньён палявы, шампіньён лясны, у горадзе – тратуарны. І ёсць шампіньён жоўтаскуры, смяротна ядавіты. І расце ён разам, адной кампаніяй. Вось вам, калі ласка, і збірайце шампіньёны. Ёсць небяспечныя двайнікі! Калі возьмеце ножку і разрэжаце яе наўскасяк – спачатку яна белая, але праз колькі секунд зробіцца ярка-жоўтая... Гэта і ёсць наш двайнік – жоўтаскуры шампіньён. Хто гэта ведае? Безумоўны, грыбы рэч каварная.

Альбо тая ж белая (ці жоўтая) паганка. Збіраеш сыраежкі, зялёную альбо зеленаватую, і памылкова зразаеш паганку. Увогуле, яе няцяжка пазнаць. На ножцы ў яе клубнепадобнае патаўшчэнне і выразнае колца. Аднак, калі вы рэжаце маладзенькія грыбы, толькі шапачкі, рызыку выключыць немагчыма: і там, і там пласціны белыя, шапачкі жаўтавата-зеленаватыя. Нават адмысловы грыбнік можа схібіць. Таму раю не захапляцца маладымі грыбамі, а лепш і ўвогуле іх не браць. Яны яшчэ не так разгарнуліся, каб можны было адрозніць "белае" ад "чорнага". А гэта небяспечна.

Ідзём далей. Грыб-парасон вялікі стракаты. Выдатны ядомы грыб. Грыб-парасон чырванеючы. Белы палявы. І гэтак далей – іх шмат. І вось вы трапляеце на грыб-парасон востралускаваты. На шапачцы адтапыраныя вострыя лускавінкі. Гэта ўжо небяспечны двайнік і многа праблем. Не рызыкуйце!

### *Пра грыбныя выставы і значэнне прафілактыкі*

У высокаразвітых краінах, кшталту Фінляндыі, Швецыі ды іншых, перад грыбным сезонам наладжваюцца традыцыйныя грыбныя выставы. Часу адводзяць ім столькі, каб хапіла – два альбо тры тыдні, і кожны смяротны мае выдатную магчымасць прыйсці сюды, паглядзець ды праверыць свае назіранні. Хто-небудзь можа завітаць адразу з лесу – параўнаць,запэўніцца, ці адпавядае ўсё, што сабраў, нормам і стандартам. Зразумела, такія выставы маюць велізарнае значэнне ў справе прафілактыкі грыбных атручэнняў.

Кожны народ па-свойму глядзіць на грыбы і мае свае трыдыцыі грыбазбору. У Швецыі, напрыклад, не бяруць баравікі. У нас бяруць ружовую і белую ваўнушку. Бо нам вядомы такі спосаб як засолка. А недзе ён невядомы, і там ваўнушку абыходзяць бокам як неядомы грыб. Тэхналогія прыгатавання, дарэчы, таксама надзвычай істотная ў сэнсе бяспекі ўжывання грыбоў.

Эканамічныя ўмовы, будзем гаварыць, змяніліся не ў лепшы бок, і людзі глядзяць на грыбы ўжо як на прадукт харчавання, а не як на далікатэс. У такой сітуацыі ведаць грыбы і мясціны, дзе іх трэба і не трэба збіраць і што ды як з імі рабіць, -- неабходна і важна. Аднак не менш важна памятаць і пра тое, што грыбы – адзін з найістотных кампанентаў лесу. Не будзе грыбоў – не будзе і лесу. Але гэта ўжо крыху іншая тэма.



** бомба замаруджанага дзеяння — смецце. Адзінае выйсце, як лічаць спецыялісты, — паўторнае выкарыстанне адходаў. Гэтая стыхійная смеццезвалка на ўскрайку лесу тым часам даўно не рэдкасць.*

*Фота: Неруш-прэс.*


SUMMARY

Cases of poisoning by toadstools are often falsely linked to the consequences of Chernobyl. Mycologist Pavel Mikhalevich points out other more likely causes — the abundance of potentially dangerous rubbish dumps in forests, and ignorance about mushrooms and how to cook them. **Pages 12-13.**

Этнас

## Форум беларусаў свету засведчыць і экалагічную сітуацыю ў краіне

"*Праблемы захавання беларускай прысутнасці ў свеце*" – такая адна з найгалоўных тэмаў 2-га з'езда беларусаў свету, які мае адбыцца. Старшыня рады згуртавання беларусаў свету "*Бацькаўшчына*" Ганна Сурмач зазначыла напярэдадні, што, як не дзіўна і не горка, ёсць праблема захавання беларускай прысутнасці ў самой Беларусі. Гэта пытанні беларускай дзяржаўнасці, фізічнага захавання нацыі. "*Чарнобыль, воз экалагічных праблем, сацыяльная напружанасць не надаюць упэўненасці ў заўтрашнім дні,* – сказала яна. – *Як з гэтым змагацца, што супрацьпаставіць? Найперш клопат – захаванне культуры, мовы, нацыянальнай адукацыі. Сёння фактычна чыніцца разбурэнне і вынішчэнне ўсяго нацыянальнага...*"

З'езд, несумненна, станецца значнай з'явай на Беларусі. Удзельнікі з'едуцца з розных краін і кантынентаў, каб данесці на радзіму свае трывогі і спадзяванні. А калі "*выкажуць боль і крыўду*, — падкрэсліла сп. Сурмач, — *дык з адной мэтай – дапамагчы пазбавіцца хібаў і кепскага ўражання аб Беларусі ў свеце*".

Газета "Белавежская пушча" далучаецца да ўсіх спадзяванняў на плён і радасць братняй сустрэчы і горача вітае яе ўдзельнікаў. Будзем разам спадзявацца і на цёплыя летнія дні, якія падорыць удзельнікам форуму прырода беларускага лета. *Крыніца: беларуская прэса, уласная інфармацыя.*



* "*А мы пяём па-нашаму!..*" *Фальклорны гурт з вёскі Жукаў Барок падчас эколага-культуралагічнай экспедыцыі "Па Нёману песня плыве". Стаўбцоўскі раён, 1996. Фота: Васіль Зянько (Стоўбцы).*

Тым часам

## Гэта ўсё шэдэўры

"*Кожны від – шэдэўр эвалюцыі*" – даводзіць двойчы лаўрэат Пуліцараўскай прэміі біёлаг з Гарвардскага універсітэта Э.Вільсан у газеце "*Вестдойчэ альгэмайне цайтунг*". Тым часам біялагічная разнастайнасць на нашай планеце знаходзіцца пад пагрозай. Штогод выпальваецца 5 працэнтаў паверхні Зямлі. На адну сотую скарачаецца за год плошча трапічных лясоў, што ёсць радзімай большасці відаў; разбураюцца і расцягваюцца рабаўнікамі каралавыя рыфы... Пятая частка ўсіх птушак знікла за мінулыя 2000 гадоў, над 11 працэнтамі (ад ацалелых 9040 відаў) вісіць пагроза. У ЗША пераважна за апошнiя стагоддзе знішчана 2,3 працэнта відаў птушак, 2,2 – амфібіяў, 8,6 – прэснаводных малюскаў. Каля 22,2 працэнта усіх відаў жывёл і раслінаў могуць загінуць.

Штогод на Зямлі вынішчаецца 27000 відаў. Гэта значыць: 74 віды ў дзень або 3 – у гадзіну.

Пасля такіх лічбаў аўтар, натуральна, заклікае прыкласці ўсе намаганні для ўратавання кожнага віда. Разам з культурай гэта будзе нашай найкаштоўнай спадчы най, якую мы пакінем нашчадкам. *Крыніца: агенцтва Волжскай экалагічнай інфармацыі (АВЭ - інфа).*

Клімат

## Парніковы эфект пагражае ўсім нам, а белым мядзведзям пагатоў

Глабальнае пацяпленне, якое пагражае чалавецтву новымі ачагамі небяспекі, можа самым нечаканым бокам адбіцца на Антарктыдзе і Арктыцы, канстатуюць вучоныя. Дастаткова сямі градусаў па Цэльсію, каб магчымыя маштабы зменаў у гэтых часцінах пацягнулі за сабой непрадказальныя наступствы. Напрыклад, знікненне флоры, якую ядуць алені, паставіць папуляцыю на грань выжывання. Белыя мядзведзі палююць толькі на лёдзе, але што будзе, калі ільды растануць?.. Рэч у тым, што гэтыя пытанні ўжо сёння зусім не рытарычныя. Статыстыка яскрава сведчыць пра тэндэнцыю пацяплення. Сусветнай супольнасці нічога не застаецца, як неадкладна вырашаць праблему празмерных выкідаў газаў, якія правакуюць парніковы эфект і спараджаюць змены клімату, поўныя непрадказальнасцяў. *Крыніца: радыестанцыя "Свабода", прэсавы рэліз.*

Дабаньне

## Доказы камянецкай інспекцыі супраць зламыснікаў яшчэ прыдадуцца

Падчас камандзіроўкі ў Пушчу наш карэспандэнт спаткаўся з начальнікам Камянецкай райінспекцыі па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя Вольгай Казак. Гаворка ішла пра кола абавязкаў інспекцыі, якое павялічваецца ці не з кожным днём з-за антрапагеннага громазду, эканамічнага неўрэгуляванне і звычайных чалавечых прагнасцяў, а колькасць людзей у інспекцыі вымяраецца адной і той жа формулай "я ды ты..."

Далей. Адолелі сметнікі, супраць якіх ніякага "лому". Цяжка ўсачыць парушальніка, які вязе сваю хатнюю ці вытворчую плюгату ў бліжэйшы лясок, ці скідвае ў прыдарожныя кусты – абы з вачэй. Але Вольга Аляксееўна не без задавальнення паказала жмут папяровых доказаў, назбіраных на тых самых сметніках – паштоўкі, капэрты, іншая канцылярыя, а таксама асобныя рэчы, даступныя ідэнтыфікацыі. Яны акуратна загорнутыя ва ўпаковачны цэлафанавы пакет і, мабыць, прыдадуцца, каб спагнаць штрафы або прысароміць, паўшчуваць нячулых людзей. "Мяне не раз праклiналі, нават былі пагрозы, — прызналася Вольга Казак.— Часам апускаюцца рукі ад роспачы. І думаеш не пра тое, каб навучыць людзей любіць прыроду, а хутчэй пра ўладу моцных законаў, паводле якіх усе павінны жыць, незалежна ад таго, хто як любіць".

На такой, крыху роспачнай, крыху суровай ноце мы развіталіся з Вольгай Казак. Уласная інфармацыя.

Праз Беларусь

## Вайсковыя аб'екты пакінулі цяжкую спадчыну

Пасля вываду войскаў Расіі з тэрыторыі Беларусі зямля, занятая былымі вайсковымі аб'ектамі, не хутка вернецца ў строй. Гэта пацвердзілі аналізы 87 пробаў, зробленыя беларускімі эколагамі на аб'ектах "*Гензалы*", "*Мінойты*", "*Ружаны*". Пробы браліся на стартавых пляцоўках, тэрыторыях гаражоў, складоў нафтапрадуктаў, акумулятарных майстэрняў і інш. Глеба, паводле экалагічнай ацэнкі, насычана высокатаксічнымі металамі (свінец, мыш'як, цынк, медзь, малібдэн) і рознымі арганічнымі злучэннямі (бензапірэн, нафтапрадукты). Глыбіня забруджання сягае 35 сантыметраў.

Перадача вайсковых аб'ектаў у народнагаспадарчы ўжытак павінна суправаджацца экалагічнай ацэнкай глебы і далейшым кантролем за іх станам. Такую ўмовупатрабаванне аналітыкі лічаць абавязковай. На гэта звярнута ўвага гарадскіх і раённых экалагічных інспекцый Пастаўскага, Смаргонскага, Лідскага, Дзятлаўскага, Слонімскага, Пружанскага, Мазырскага, Рэчыцкага, Жыткавіцкага і і ншых раёнаў Беларусі. *Крыніца:"Экалагічная ацэнка глебавага покрыва на былых вайсковых аб'ектах стратэгічных войскаў Расіі". Інфармацыйны бюлетэнь №5. Аўтары: Ч. Раманоўскі, В. Фядзеня, В. Матвеева. 1996.*

Выбар

## Калі хочаш змяніцца і змяніць свет да лепшага -сядай на ровар!

Калі ў вас ёсць карта з пазначэннем дарог, рачулак ды селішчаў, вы можаце скласці свой непаўторны маршрут веласіпеднай вандроўкі. Колы пад вамі будуць круціцца самі, а вам застанецца толькі лавіць цудоўныя імгненні, сузіраючы наваколле. У прыдатнай мясцінцы вы можаце зрабіць прывал. Выкупацца. Адведаць запасаў з пляцака. І рушыць далей. Ваколіцы, нават тыя, што не за высокімі гарамі, тояць шмат адкрыццяў і таямніц. Тым часам вы адчуеце прывабнасць ровара і запэўніцеся ў яго неабмежаваных магчымасцях, у тым ліку як альтэрнатывы забруджанню навакольнага асяроддзя. *Крыніца: уласныя ўражанні ад падарожжаў на мінскім ровары.*




*В.Фалічы, Старадарожскі раён, 1975*

Мы і свет

## На зямлі, што "сплывае мёдам і малаком", або Колькі цікавых звестак пра Ізраіль

Адметны факт: калі ў 1948 годзе Ізраіль атрымаў незалежнасць, у краіне было 4,5 мільёнаў дрэў лесу, сёння іх колькасць сягае 200 мільёнаў.

Наколькі ахова прыроды стала справай дзяржаўнай важнасці, сведчаць найстражэйшыя захады па зберажэнню флоры і фауны, ці хоць бы законы, якія забараняюць зрываць нават самую звычайную кветку. Створаная ў 1964 годзе Управа па ахове прыроды сумесна з Таварыствам па ахове навакольнага асяроддзя сочыць за тым, каб задавальненне патрэб развіцця не супярэчыла захаванню ландшафта і навакольнага асяроддзя.

Пад наглядам Управы знаходзіцца больш як сто запаведнікаў (агульная плошча Ізраіля, нагадаем, 27800 кв.км з насельніцтвам блізу 5 млн. чалавек), каля дваццаці з іх – добраўпарадкаваныя цэнтры адпачынку, адчыненыя для наведвальнікаў.

Сотні раслінаў, у тым ліку дубы і пальмы, а таксама жывёл і птушак (газэляў, казярогаў, леапардаў і ястрабаў) знаходзяцца пад аховай. Ёсць віды пад пагрозай вымірання, што вымушае прымаць адмысловыя захады: абсталёўваюцца пункты кармлення ваўкоў, гіенаў і лісіц; забяспечваецца ахова гнездавання птушак; яйцы марскіх чарапахаў збіраюцца ў інкубатары, а выводак вяртаецца ў мора. Каб пазбегнуць сутыкненняў самалётаў з чарадамі пералётных птушак вясной і ўвосень, былі выяўлены іх міграцыйныя маршруты і авіярэйсы па гэтых маршрутах забароненыя.

Яшчэ колькі цікавых фактаў. Дзеля захавання багатай спадчыны Эрэц-Ісраэль (зямля Ізраіля) былі таксама прынятыя захады для ўзнаўлення расліннага і жывёльнага свету біблейскага



перыяду, асабліва тых відаў, што знаходзяцца на грані знікнення. Для збору і захавання існуючых некалькіх відаў раслін, што ўпаміналіся ў Біблії, у цэнтры краіны быў створаны батанічны запаведнік, дзе разбілі сады з флорай розных раёнаў старажытнай Эрэц-Ісраэль.

Каб вярнуць жывёлаў, якія калісьці вадзіліся на біблейскай зямлі, у іх ранейшае прыроднае асяроддзе, створаны запаведнік *"Хай-Бар"*. Часам на пошукі гэтых дзікіх жывёлаў вучоныя едуць у няблізкі свет, а калі знаходзяць, прыстасоўваюць іх да новага асяроддзя і затым выпускаюць на волю.

Цяпер у Ізраілі гадуюць страусаў, персідскіх ланяў, анаграў і самалійскіх дзікіх мулаў.

Беражлівыя адносіны да прыроды выхоўваюцца ў школах, яны ўласцівыя для самых шырокіх слаёў насельніцтва краіны. *Крыніца: інфармацыйны матэрыял, прэзентаваны рэдакцыі Амбасадай Ізраіля ў Мінску.*

## Праекты

### Расліны, здольныя "выкараняць" цяжкія металы

Выпрабаванні на раслінах, праведзеныя ў Вялікабрытаніі Шэфілдскім Універсітэтам, што ў Паўночнай Англіі, а таксама Інстытутам Даследванняў Раслінаў паказалі, што існуе выдатны патэнцыял для выкарыстання гіперакумулюючых раслінаў па выдаленні металаў з глебы.

Некаторыя віды раслінаў паказалі натуральную здольнасць абсарбаваць металы з глебаў, дзе іх прыроднае ўтрыманне высокае. Яны таксама могуць абсарбаваць металы з глебаў, дзе канцэнтрацыі металаў нязначныя.

Далейшыя навуковыя пошукі скіраваныя ў напрамку вызначэння тых генатыпаў, якія хутка растуць і найбольш моцна акумулююць цяжкія металы. Даследуюцца магчымасці паляпшэння металапаглынальных характарыстык шляхам генетычнай інжынерыі.

Трэба будзе вырашыць і праблему збору такіх гіперакумулюючых раслінаў пры дапамозе спецыялізаванай сельгастэхнікі, а таксама распрацаваць метады перапрацоўкі сабранага металанасычанага ўраджаю. *Крыніца: газета "Наша ніва".*

## Анекдот

### Пра карову

Пана Ярузельскага інфармуюць, што ў Белавежскай пушчы на савецка-польскай мяжы ўпала карова. Не ведаем, маўляў, што рабіць.

— Як тая карова ляжыць? — пытае пан Ярузельскі.

— Адна палова на нашай тэрыторыі, другая – на савецкай, — адказваюць.

— На чыёй тэрыторыі вымя каровы? — удакладняе пан Ярузельскі.

— На нашай, — адказваюць.

— Даіць! — вырашае пан Ярузельскі.

Пра тое ж самае дакладваюць таварышу Брэжневу.

— На чыёй тэрыторыі галава каровы? — пытаецца генсек.

— На нашай, — адказваюць. – Што рабіць?

— Кормить, товарищи, кормить! — загадвае таварыш Брэжнеў.

*Ад рэдакцыі.* Часта даводзіцца чуць: "анекдот занадта салёны"... Мы з радасцю ўсклікнем: "анекдот ЗЯЛЁНЫ!..", калі ў нашай рэдакцыі сапраўды такі з'явіцца. Нават калі ён будзе "занадта зялёны".

## Nota bene

### Дзве цытаты

"Тэрыторыяй Беларусі – традыцыйна аграрнай краіны – з-за ілжыва незапатрабаванай працоўнай сілы скарыстоўваліся дзеля мэтаў зборачнага цэха цяжкага машынабудавання, буйных жывёлагадоўчых комплексаў, ушчэнт няздарнай меліярацыі. Вынік спусташальны. Знішчаны малыя сельскія паселішчы, разбураны традыцыйныя культурна-гаспадарчыя комплексы з іх аптымальнымі сельскагаспадарчымі тэхналогіямі, беражлівымі адносінамі да жывой і нежывой прыроды".

"Катэгарычна ўпэўнены – ядзерная тэхналогія этычна сумніўная і сацыяльна шкодная. Такі ж тэзіс неабходна распаўсюдзіць на ўсе іншыя экалагічна небяспечныя тэхналогіі, патэнцыяльныя для ўчынення прыродных катастроф. Норма экалагічна зберагальных паводзін паступова павінна зноў вярнуцца да вытокаў экалагічнай культуры і рацыянальнага (разумнага) мыс-лення. Пакуль канфлікт узаемаадносін паміж Прыродаю і Чалавекам будзе працягвацца, да таго часу будзе пагаршацца экалагічная сітуацыя, павялічвацца парадокс антыгуманнай жыццядзейнасці грамадства". *Аляксей Мікуліч, доктар навук, інстытут этналогіі і фальклору Нацыянальнай Акадэміі навук. Крыніца: матэрыялы Міжнароднай канферэнцыі "Праблемы экалогіі культуры і духоўнасці". Мінск, 25-26 лютага 1997.*

**"БП" ладзіць выпускі серыі *"Аўтограф"* (газета ў газеце). На чатырох старонках вы можаце цудоўна заявіць пра сябе — папулярна і падрабязна прадставіць тую ці іншую мясціну, помнік прыроды, аб'ект культурнай спадчыны, экалагічны праект, кірунак прыродаахоўнай дзейнасці і г.д. Ваш *"Аўтограф"* прачытаюць не толькі ў Беларусі, але за яе межамі. Чакаем цікавых прапаноў.**

## Заданне майстру

### Як ажывіць дрэва?

Сустрэць спілаванае (паваленае) дрэва – бярозу, ліпу, альбо тапалю ніколі не было рэдкім выпадкам. Асабліва вясной, калі прарэджваюцца пасадкі, выбракоўваюцца часткі дрэў.Не кажучы пра сёлятняе "ўраганнае" лета, якое паклала долу сотні старадрэвін, наламала кучы галля. Вока майстра заўсёды зачэпіцца за гэты матэрыял, каб нешта дадумаць і зрабіць. Прыкладам, на аблюбаваную і з густам апрацаваную галінку вы можаце падвесіць кашпо альбо габелен.Спілы тоўстага дрэва могуць прыдацца ў якасці падставак, накрывак, насценных кампазіцый. А на паўмятровы пянёк добра сесці самому ці зрабіць з яго столік. Нават кара старадрэвін (дуба, клёна, ліпы і інш.) упішацца ў ваш хатні куток. Магчыма, варта зрабіць нарыхтоўкі на будучыню, калі часу на творчасць пабольшае.Падаём адзін з варыянтаў, як "ажывіць" дрэва, і жадаем натхнення.



## Кнігі

### Казкі Лошыцкага парку

Дрэвы, трава, сцяжынкі... Калі ўважліва глядзець наўкола, слухаць гамонку лісцяў, шэпат раслін і галасы птушак, прырода, нават тая, што на асфальце, складаецца ў казку, дзе шмат дзівосаў і таямніц. Хлопчык Максімка, які пасябраваў з чароўным Лошыцкім паркам у Мінску, знайшоў тут незвычайных сяброў. Яны расказваюць яму, як трэба паводзіць сябе ў прыродзе, каб не зрабіць ёй балюча ці блага. Мядзведзік Таптыжка і зайка Вушасцік спадабаюцца многім дзецям дашкольнага ўзросту. Адметна і тое, што кніжку намалявалі таксама дзеці – мінскія школьнікі.

Шмат намаганняў, каб зрабіць гэтае выданне магчымым, прыклаў педагог і эколаг Яўген Церахаў. А фінансаванне кнігі забяспечыла Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. *Крыніца: уласная інфармацыя.*

## Прэс-канферэнцыі

### Кенет Ялавіц адзначыў беларускія краявіды

*"Мае найбольшыя ўражанні ад Беларусі – яе шчырыя, таленавітыя людзі і выдатныя краявіды,"* – сказаў падчас развітальнай прэс-канферэнцыі былы пасол ЗША ў Мінску Кенет Ялавіц. Ён пажадаў нашай краіне знайсці магчымасць найлепшым чынам скарыстаць гэты *"чалавечы і пры-родны патэнцыял"*. *Крыніца: ўласная інфармацыя.*

## SUMMARY

This edition's news panorama includes columns entitled Ethnos (about the 2nd forum of Belarusians from around the world), Climate (on the ever more real threat of global warming), Through Belarus (about the problems caused by former Russian military bases), Choice (the cycling revival is protecting the environment), Press Conferences (at his farewell meeting with journalists, the US Ambassador remarked on the importance and beauty of the Belarusian countryside), **Pages 14-15**.

### *Удзячнасць*

Сусветны дзень абароны навакольнага асяроддзя 5 чэрвеня стаў пачаткам сумеснай акцыі газеты "Белавежская пушча" і двух мінскіх супермаркетаў – універмага "Беларусь" і "Гандлёвы дом на Нямізе". Інфармацыйны дзень газеты (менавіта такую назву атрымала акцыя) прадугледжваў кароткія віншавальныя абвесткі па радыёкропцы і выставу-продаж выдання ў секцыях і кніжна-газетных шапіках. Усё прайшло адмыслова. Кіраўніцтва і службы з павагай і разуменнем паставіліся да прапановы, радыедыктаркі з густам і пачуццём выконвалі свае ролі. У рэшце рэшт газета пашырыла кола сяброў і знаёмстваў. Усім – дзякуй!

*Газета "Белавежская пушча".*

 

# НАШЫЯ СЛОВЫ!






*Уладзімір Басалыга. З серыі "Ініцыялы"*

## Зачараваны матчыным словам

*Так, бадай, мусіш сказаць пра Ўладзіміра Басальігу, мастака-графіка, які стварыў ( і працягвае ствараць) серыю ініцыялаў бела-рускага алфавіта. У маляўнічых каляровых літаграфіях аўтар спалучае літару і словы, якія на гэтую літару пачынаюцца, з іх вобразным ладам, малюнкамі прыроды, сельскімі і гарадскімі краявідамі, прадметным багаццем бацькоўскай спадчыны. У будову кампазіцыі мастак надзвычай густоўна, з адмысловым веданнем жыццяпобыту ўводзіць тую ці іншую птушку, дрэва, кветку, прыладу працы, музычны інструмент і інш. Скрозь чароўныя "акенцы" гэтай вабнай будовы мы глядзім на беларускія далягляды, іхняе ўрачыстае хараство і спасцігаем гармонію асяроддзя з дапамогаю слоў — родных, мілагучных, адвечных. Нашых слоў.*

## Новатвор беларускамоўнага папугая

**У** Заслаўі, што пад Мінскам, жыве пенсіянерка Ніна Мацвееўна Пятрова, якая навучыла хвалістага папугайчыка Пятрушу размаўляць па-беларуску. Дарэчы, гэта ўжо другое пакаленне беларускамоўнага папугая ў кватэры Ніны Мацвееўны. Слоўнік Пятрушы досыць адметны. На розныя лады свісцяча-шыпячай галасавой палітры ён вымаўляе цэлыя сказы: *"Пятруша – шчыры беларус"*, *"Пятруша – Харошка"*, *"Янка, дай бусю"*, *"Спаць пара"* ды інш. А нядаўна слоўны запас Пятрушы папоўніўся уласным новатворам: з двух завучаных словаў *"прыгажуня"* і *"працаўнік"* нечакана атрымалася новае – *"прыгажунік"*. Слоўка, мабыць, вабнае ды мілагучнае, бо з языка ў Пятрушы не сходзіць. А можа, ён закахаўся ў самога сябе?

## Колькі слоў на развітанне

***На парозе жнівень, а там і скончэнне лета. Лета няўцешнага, часам бязлітасна жорсткага. Чалавек стаіўся перад подыхам стыхіі; сілы прыроды пагрозліва паўсталі перад ім ці не ў поўную веліч. Нічога не застаецца як спадзявацца на літасць ды жыць у гармоніі з наваколлем. Што тоіцца ў лонях Сусвету, што нас чакае? Рэальнасць катастрофы? Таемнасць бясконцасці?.. Скарыстайцеся нашай няхітрай парадай на гэты час. У ціхія жнівеньскія вечары часцей выходзьце любавацца на захады сонца. Яны маляўнічыя і фантастычна касмічныя. Гэта супакойвае і дае надзею на заўтрашні дзень.***

***Добрых светлых уражанняў!***

## Замова для пчол

**Стой**, рой малады! Не іграй, да сырой зямлі прыпадай. Вось вам, пчолкі, святліца – новая, цясовая, адмысловая. Жыць вам тут і быць сто лет і зім і дзвесце дзяцей павадзіць. І ты, матка ліпа Валляна, ліпа красная дзявіца, і ты, труцень Іван, параней уставайце, сваіх дзетак пабуджайце і пасылайце іх у цёмныя лясы, у шчырыя бары. Майце шум баравы, майце роў прудавы, мядзвежую лапу, воўчы рост. Саграбайцеся, змятайцеся. Да чу-жых пчол не лятайце і чужых да сябе не пускайце. Як маці зямлі, свайго месца пільнуйцеся.

## SUMMARY

The premiere of this section, which will mainly cover subjects like the beauty of the Belarusian language, its wealth of associations, and the language's links with Nature. Here we include a painting by Vladimir Basalyga from his Initials series

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

- природалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
- выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс"
- год выдання трэці, 1997 №3 /6/
- рэгістрацыйны нумар 125, наклад 3000 асобнікаў, кошт дамоўны

*Тэхнічная група*: Цімох Дранчук, Марк Бенц, Уладзя Ляская.
*Афармленне, макет*: Валерый Дранчук.
Падпісана ў друк 20.07.97.

Пры передруку спасылка на газету абавязковая

Рэдакцыя пакідае за аўтарамі магчымасць вольна выказваць свае меркаванні і несці адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.

***ЭКААПЕКА - 97.***

*Газету заўсёды можна набыць*: Мінск: універмаг "Беларусь" (2-гі паверх, секцыя "Канцтавары"), "Гандлёвы Дом на Нямізе" (кніжна-газетныя шапікі", 1-2 пав.). "БП" шукае зацікаўленых партнёраў у іншых гарадах ды абласных цэнтрах. Падпіска з любога месяца.

"BIELOVEZHSKAYA PUSHCHA" Belarussian Nature-Lowing Newspaper. Motto: With Lowe To Lap. Published at the initiative of the Information Green Agency "NERUSH-PRESS"

Contact:220088 MINSK Ivanovskaya 38 - 16 Phone (0172) 236-50-76

 